

БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

ZAPISY — The Quarterly of the Whiteruthenian (Byelorussian) Institute of Arts and Sciences

Vol. II NEW YORK 1953 № 2 (4)

Др. ІГНАТ ДВАРЧАНІН

# *Беларусы на Праскім Унівэрсытэце*

## ад ягоных закладзінаў да паловы XVI стагодзьдзя*)

Праблема вызваленьня беларускага народу ў сучасны мамэнт знаходзіцца ў самай непадзельнай сувязі з адраджэньнем беларускае нацыі, якая мусіць дамагацца агульначалавечых правоў перад „цывілізаваным грамадзтвам". Поймы „нацыя" й „народ" у беларусаў пакульшто ўжываюцца найчасьцей як сынонімы, а іх трэба адрозьніваць: **nation — populus, die Nation — das Volk, the nation — the people.**

Таму, каб выйсьці з стану „нацыі этнаграфічнай", побач з агульнымі заданьнямі сучаснага мамэнту, перад беларускім актывам паўстае пытаньне дасьледваньня свайго культурнага багацьця, захаванага пад попелам старасховаў. Адна зь цікавейшых бачынаў беларускага культурнага жыцьця ў мінулым, гэта час пасьля ўсталеньня Беларусі, як адзінага гаспадарства, калі яно пайшло шляхам набліжэньня да складу жыцьця Заходняе Эўропы. Ня менш цікавы, зь іншага боку, і пачатак тое вялікае эпапэі ў змаганьні за новыя культурна-грамадзкія формы, якую адчыніла ў Эўропе гусыцкая рэвалюцыя. Таму важ-

*) Гэтая, недрукаваная яшчэ нідзе праца доктара Ігната Дварчаніна была напісаная каля 30 гадоў таму ў часе ягоных студыяў у Празе. Др. Дварчанін, як ведама, быў сасланы бальшавікамі ў 1933 г. на Салавецкую катаргу й там у 1936 г. памёр.

на ўстанавіць і ступень удзелу ў гэтай эпапеі беларусаў, асабліва з увагі на жывыя сутыкі тагачаснай Беларусі з крыніцаю выбуху рэвалюцыі — Чэхіяй.

Гэты артыкул мае на мэце закрануць справу сутычнасьці паміж чэскім і беларускім народамі ў дачыненьні да ў некаторай ступені агульнай Alma Mater — Праскага Універсытэту. Дакладней: зьвярнуць увагу на далучэньне беларусаў да агульнага культурнага руху праз здабываньне вышэйшай асьветы на гэтым універсытэце.

## 1.

Праскі Універсытэт заснаваны ў 1348 г. пры чэскім каралі Карле, які ведамы пад імем імпэратара Сьвятой Рымскай Імпэрыі Карлы IV. У той час беларусы перажывалі пару нутраной кансалідацыі паасобных княстваў у вадно магутнае гаспадарства пры вялікім князю Альгердзе (лятувіскую частку гаспадарства зьбіраў Кейстут). З гэтае прычыны сумніўна ці Беларусь тады магла адразу пасылаць сваю моладзь у гэтую, толькі што закладзеную, цытадэлю веды. Але факты, пададзеныя беларускімі летапісамі, сьветчаць пра тое, што чэскую мову ведаў Ягайла, а магчыма й Альгерд. Гэта, ды даныя аб уплывах у тыя часы чэскай культуры на беларускую, дазваляюць мяркаваць, што Беларусь мела пэўную лучнасьць з Праскім універсытэтам ужо ад самага пачатку.

У верагоднасьці гэтага нас могуць пераканаць яшчэ гэткія факты:

1. Праскі ўнівэрсытэт зараз-жа пасьля ягонага адчыненьня стаўся адным зь перадавых у Эўропе, побач з Парыскім, Оксфордзкім і Банонскім.

2. Ён прыцягнуў да сябе гэтулькі моладзі з усяе Эўропы, што яму мог-бы пазайздросьціць ці адзін універсытэт нашага часу.

3. Паводле некаторых вестак, беларусы каля гэтага часу здабывалі ўжо асьвету на ўнівэрсытэтах Захаду, прыкладам, у Банонскім, ды тварылі там нават адзін з „ультрамонных" унівэрсытэцкіх народаў.

4. Праскі ўнівэрсытэт быў да Беларусі найбліжэйшы.

Гэтыя меркаваньні лягічна прыводзяць да думкі, пра навучаньне беларусаў у Праскім унівэрсытэце ад самага пачатку. Пэўныя-ж весткі аб гэтым мы маем ужо з 1387 г., калі пры ўнівэрсытэце была закладзеная г. зв. „Літоўская Калегія". Але на жаль, з прычыны зьнішчэньня чэскіх культурных помнікаў у часе „крыжовых" войнаў з гусыцтвам за панаваньня першых Габсбургаў, ды асабліва ў Трыццацігоднюю вайну, не засталося архіваў Калегіі, адкуль можна было-б дастаць найпэўнейшыя весткі. *) Цікава тут толькі адцеміць, што Гус на Канстанцкім Саборы прыгадвае аб „русах", як пра сваіх вучняў і пасьлядоўнікаў.



## 2.

Пазьней, калі з прычыны гусыцкага паўстаньня шмат хто з чужынцаў выехаў з Прагі й, найхутчэй з гэтае-ж прычыны, на пачатку XV ст. быў абноўлены Кракаўскі ўнівэрсытэт, дык пры ім ужо адразу была адчыненая „руская" калегія й на ейнага кіраўніка прызначаны прафэсар з Прагі Ян Ісьнэры, які раней належыў да кіраўніцтва Літоўскай Калегіі ў Празе. Пад „русамі" разумеліся беларусы разам з украінцамі, якія, аднак, у гэты час перажывалі цяжкі палітычны крызыс.

Гусыцтва ня толькі ня спыніла выезду беларускай моладзі ў Прагу на вышэйшую навуку, а наадварот — Прага сталася адным з папулярнейшых месцаў Эўропы ў гэтым сэнсе. Праваслаўная Беларусь зь вялікім зацікаўленьнем сачыла за разьвіцьцём падзеяў у сувязі з гусыцтвам, якое мела агульнаэўрапейскі характар, ды жыва адгукалася на іх, становячыся выразна на баку чэхаў. Довадаў на гэта маем вялікі лік.

Даволі прыгадаць тут хоць-бы наведаньне Беларусі Геро-

*) Гісторыя праскай „Літоўскай Калегіі" у скароце была гэткая: Ягайлава жонка каралева Ядвіга, з парады свайго капэляна чэха Шчэкны, наважыла дапамагчы выезду на студыі ў Прагу моладзі зь Вялікага Княства. Яна дала грошы, за якія быў куплены ў Празе адумысловы дом. У ім і мелася быць адкрытая „Літоўская Калегія" (бурса) на 12 студэнтаў. Але Ядвіга хутка памерла (1399 г.) і таму Калегія была ўладжаная праз колькі гадоў пазьней. Дзеля гусыцкіх войнаў, яна не змагла адыйграць тае ролі, якая ёй была прызначаная. Аднак, як падае ў сваёй хроніцы Длуґош, яшчэ ў другой палове XV ст. Калегія існавала. Утрымлівалася яна тады галоўна колькімі вёскамі, купленымі блізка Прагі за „200 коп шырокіх грошаў праскіх", запісаных „вечным запісам" на гэтую мэту каралеваю Ядвігай. (Прыпіска Рэдакцыі ЗАПІСАЎ).

німам Праскім, абраньне чэхамі за свайго караля Вітаўта, фактычную ўладу ў Чэхіі ягонага намесьніка Міхала Карыбута Северскага, які нават прыняў гусыцтва. Да гэтага належаць яшчэ весткі пра тое, што ў Табары было поўна „русаў" (беларусаў ды украінцаў) і факт абраньня за караля Ўладыслава Казімеравіча. Усё гэта апрацавана ўжо ў васобных манаграфіях.

3.

Трэба мець на ўвеце, што ўнівэрсытэт у гэты час пачаў занепадаць і ў канцы XV ст. у ім застаўся бадай ці не адзін філязофскі факультэт і Liber decanorum падае весткі галоўна аб гэтым факультэце.

Да гэтага мусім дадаць, што ў Liber decanorum толькі імёны тых, што скончылі факультэт ці то ў ступені бакалара ці магістра. Іншыя імёны, а іх напэўна было куды болей, загінулі для досьледу.

Трэба таксама яшчэ зацеміць, што адзначэньнем беларускага паходжаньня таго ці іншага магістра ці бакалара служыць толькі ягонае імя й прозьвішча, якія вельмі часта перакручаныя й нічога нам не гавораць. Таму мы бярэм тыя імёны, якія з гэтага гледзішча найбалей пэўныя, пакідаючы ў баку імёны спрэчныя. З прычыны немагчымасьці ў дадзены мамэнт карыстацца самой Liber decanorum, ня можна паказаць гадоў, калі той ці іншы магістар або бакалар быў выпушчаны. Карыстаемся з выпіскаў, зробленых для іншай мэты. Рымскія лічбы паказваюць частку кнігі (Liber...), арабскія — бачыны, на якіх гэтыя асобы згадваюцца. Вось гэтыя прозьвішчы:

1. Dionysius de Smolnycz (відаць з Смаленску), I, 220.
2. Gabriel Czobot (прозьвішча беларускае ці ўкраінскае), I, 185.
3. Joannes de Plocek (так называўся Полацак; Плоцк быў тады малым гарадком), I, 262.
4. Mathias Czobot, I, 317, 318, 347, 368.
5. Mathias de Plocek, I, 222, 241, 256.
6. Mathias de Wilna, I, 382, 397.
7. Nicolaus Czobot, I, 165, 213, 205.
8. Nicolaus de Dessna (зь Дзясны), I, 446, 447.
9. Nicolaus Welneri (магчыма, таксама зь Вільні), I, 184.
10. Petrus de Plocko, I, 329.
11. Petrus de Policz (магчыма, таксама з Полацку), I, 138.
12. Christophorus de Litwania, I, 367.
13. Elias Styrkobskya Wolonicz (зь ведамага беларускага роду), II, 432, 444.
14. Paulus de Podlessko (з Падляшша), I, rog.
15. Markus de Lutonia (імя Марка прамаўляе за праваслаўнасьць), I, 287.
16. Marcus de Luthonia, I, 377 g.
17. Michael de Luthonia, I, 404, 418, 419, 429, 438, 445.

Ёсьць яшчэ гэткія, як Sythuania, якія падыходзяць да згаданых de Lithuania. Апрача гэтага шмат прозьвішчаў ёсьць з допісам Orient (усходні) і Crhunensis, Crha (пачэску Кірыла), якія таксама могуць нам нагадваць беларусоў, але, з прычыны няпэўнасьці, апушчаем іх, як і імёны шматлікіх украінцаў з Валыні ды Галіччыны.

Падсумоўваючы, можам сьцьвердзіць, што за XV і ў першай палове XVI ст. толькі адзін філязофскі факультэт Праскага Ўнівэрсытэту скончыла каля 17 беларусаў. Гэта, бязумоўна, ня ўсё. Шмат губляецца для нас у няясных, перакручаных імёнах ды шмат вучылася на іншых факультэтах.

Вось у канцы, для прыкладу, яшчэ адзінаццаць прозьвішчаў, зь якіх некаторыя маглі-б таксама быць прозьвішчамі асобаў зь Беларусі:

1. Joannes Bahdonensis, II, 390 (прозьвішча ад праваслаўнага імя Багдан — Багдановіч).
2. Joannes Orient, I, 418.
3. Joannes Ruthardi de Montinus (нібы „рус з гораў"), I, 348-9.
4. Georgius Harownik, II, 280 (прозьвішча вельмі падобнае да беларускіх).
5. Ingemarus de Arosia, I, 225.
6. Joannes de Arosia, I, 314.
7. Paulus Lithanicus Raconicenius (нібы „Паўла ліцьвін з Аўстрыі"), II, 432.
8. Franciskus de Sythania, I, 172-3.
9. Franciskus de Litania, I, 256.
10. Jacobus de Arosya, I, 386, 397.
11. Jacobus Rusbach, I, 211.

**Праф. Л. АКІНШЭВІЧ**

# *Пра ‚Цывілізацыйныя Асновы'*
## беларускага гістарычнага працэсу

Бяспрэчная рыса найнавейшае філязофіі гісторыі — ейная адмысловая ўвага да вывучэньня паасобных камплексаў г. зв.: „культурна-гістарычных цыкляў" ці „цывілізацыяў". Гэты кірунак апраўдваецца тым, што пры больш глыбокім знаёмстве з гісторыяй паасобных людзкіх грамадаў, усё з большай і большай выразнасьцяй выступаюць рысы нераўнамернасьці, нятоесамасьці, апрычонасьці гістарычнага разьвіцьця паасобных народных групаў. Усё ясьней становіцца, што супольны й тоесамы шлях агульнага разьвіцьця ўсіх людзкіх грамадаў адшукаць цяжка. Усё больш выразна зазначаецца й неаднолькавасьць гэтага гістарычнага разьвіцьця. Прыкладам, нават Марксу й Энгельсу давялося вылучыць адмысловы „азіяцкі спосаб вытворчасьці", які яны знаходзілі ў гісторыі Кітаю й старадаўнага Эгіпту, і гэты „спосаб" выразна выломваўся із стройнай нібы схэмы „сацыяльна-эканамічных фармацыяў", што прыходзяць на зьмену адна аднэй у гісторыі сьвету.

Справа аднак выходзіць далёка за межы Кітаю й Эгіпту, бо цэлы шэраг людзкіх арганізацыяў таксама мае тэндэнцыю выломвацца із схэмы агульнага й аднолькавага (у васноўных рысах) людзкога прагрэсу. Усё ясьней робіцца, што ўсе схэмы прагрэсыўнага разьвіцьця народаў сьвету ў запраўднасьці абапіраюцца на нібы „клясычным" прыкладзе гісторыі Заходняй Эўропы. З часам сталася ясным, што й сама гісторыя гэтай апошняй ня ёсьць адзінай і бесперапыннай, што яна лучыць у сабе адменныя самастойныя цывілізацыйныя цыклі антычнага (грэка-рымскага) й мадэрнага (рамана-германскага) тыпу.

Шэраг рысаў сучаснай заходня-эўрапейскай цывілізацыі выразна аддзяляюць ейнае разьвіцьцё ад разьвіцьця іншых людзкіх грамадаў. Апошнія ня ведалі й ня ведаюць такога выразнага й юрыдычна абгрунтаванага падзелу дзяржаўнае ўлады, як гэта было ў заходня-эўрапейскім фэодалізьме. Яны не стварылі на базе вынікаў фэодалізму грамады з усталенымі правамі грамадзянаў дзеля ўдзелу ў дзяржаўным кіраўніцтве й кантролю над ім. Яны ніколі не дайшлі да таго кансэквэнтнага выніку асабістае волі, пэрсанальнае ініцыятывы й цьвёрдасьці прынцыпу прыватнай уласнасьці, які стварыў клясычныя ўзоры заходня-эўрапейскага (а за ім і амэрыканскага) „капіталізму". Мы тут бярэм адно праўныя й гаспадарчыя катэгорыі. Але можна й трэба гаварыць і пра адменныя прынцыпы ў вагульна-культурным, рэлігійным, маральным ды іншым жыцьці й прагрэсе розных людзкіх групаў.

За асобную й адмысловую рысу заходняй цывілізацыі F. S. C. Northrop ("The Taming of the Nations". New York. 1952. бач. 186-213) уважае ейную рымскую спадчыну й, асабліва, засвоеныя ёй канцэпцыі цьвярдых і агульна-зьвязваючых усё жыхарства прынцыпаў рымскага права. У гэтай думцы ёсьць шмат праўды.

Гэтая заходняя цывілізацыя была й у сваёй аснове ёсьць адзінай, ня гледзячы на стракатую адменнасьць ейных паасобных нацыянальных кампанэнтаў. Пра гэта так пісаў расейскі славянафіл Н. Данілеўскі, адзін з заснавальнікаў тэорыі культурна-гістарычных „цыклічных тыпаў": „Гэта, у сапраўднасьці, гісторыя аднаго цэлага... Як ніхто ня думае аб асобнай цывілізацыі Атэнаў ці Спарты, гэтаксама няма чаго гаварыць пра асобную гісторыю Францыі, Італіі ці Нямеччыны. Такой гісторыі ў сапраўднасьці, няма зусім, а ёсьць толькі гісторыя Эўропы з францускага, італьянскага, ангельскага ці нямецкага гледзішча"... („Россия и Европа", б. 110).

Ці пануе „клясычная" цывілізацыя Заходняе Эўропы на прасторы ўсяго эўрапейскага абшару? I ці належаць да гэтага цывілізацыйнага камплексу народы, якія засяляюць шырокія прасторы Ўсходу Эўропы? На гэтыя пытаньні даваліся розныя адказы. Калі расейскі гісторык Паўлаў-Сільванскі першы заявіў пра існаваньне фэодалізму ў Расеі, ён гэтым самым ставіў гісторыю Расеі на адну роўню з гісторыяй Заходу. Калі савецкая гістарычная навука прыймае гістарычную схэму Маркса-Энгельса, дык яна гэтым самым ізноў ставіць расейскую гісторыю на адзін шлях з гісторыяй Заходу. Калі ўкраінскія гісторыкі В. Ліпінскі й С. Тамашэўскі ставяць пытаньне пра заходнія асновы культурнага й палітычнага разь-

віцьця ўкраінскага народу, яны гэтым самым вылучаюць гэты ўсходня-эўрапейскі народ з кола культурнага цыклю Ўсходняе Эўропы.

Што да народу расейскага, дык ягоная культурная своясаблівасьць і адменнасьць ягоных гістарычных шляхоў вызнаюцца цяпер шмат кім з гісторыкаў за бясспрэчныя. Адкінутыя й запярэчаныя ў свой час ідэі расейскіх славянафілаў і расейскіх народнікаў, якія верылі ў магчымасьць для Расеі мінуць капіталістычны шлях разьвіцьця, шмат у чым у наш час здаюцца ня гэткімі ўжо сьмешнымі й галаслоўнымі.

„У расейскага народу, — піша расейскі філёзаф нашага часу, — была вялізарная сіла стыхіі й параўнальная слабасьць формы... У народаў Заходняе Эўропы ўсё шмат лепш выясьнена й афармлена, усё падзелена на катэгорыі й усё нязьменнае. Расея ніколі ня была ў заходнім сэнсе краінай арыстакратычнай, як ня сталася яна й буржуазнай". (Н. Бердяев „Русская идея" б. 6).

— „Расейцы, — піша А. Тойнбі, — былі хрысьціянамі й шмат хто зь іх і цяпер зьяўляюцца імі, але яны ніколі ня былі хрысьціянамі Захаду. Расея была наверненая ў хрысьціянства ня з Рыму, як Ангельшчына, але з Канстантынопалю й, нягледзячы на іхную супольную хрысьціянскую аснову, усходняе й заходняе хрысьціянства былі заўсёды адно ад аднаго далёкія, а часам — адно аднаму антыпатычныя й варожыя". („The World and the West", p. 4).

„Расея, — пісаў ужо згаданы намі Н. Данілеўскі, — не належыць ані да эўрапейскага дабра, ані эўрапейскага зла, як-жа можа яна належыць да Эўропы?" (там-жа, б. б. 60-61). „Яе ня жывілі, — кажа ён, — ніводзін з тых карэньняў, праз якія Эўропа ўбірала як добрыя, гэтак і шкодныя сокі беспасярэдна зруйнаванага ёю антычнага сьвету, не кармілі яе й тыя карэньні, якія чэрпалі жыўнасьць з глыбіні нямецкага духу. Ня была яна й часткай адноўленай Рымскай імпэрыі Карлы Вялікага, якая творыць нібы супольны камель, праз падзел якога паўстала ўсё галінастае эўрапейскае дрэва, — не ўваходзіла да складу той тэарэтычнай фэдэрацыі, якая заступіла сабою Карлаву манархію, — ня зьвязвалася ў вадно агульнае цела фэодальна-арыстакратычнай сеткай,



якая (як у часе Карлы, гэтак і ў часы свайго рыцарскага красаваньня) ня мела ў сабе нічога нацыянальнага, а была ўстановай агульна-эўрапейскай у поўным сэнсе гэтага слова. Пасьля, калі настаў новы век і пачаўся новы парадак рэчаў, Расея таксама ня брала ўдзелу ў змаганьні з фэодальным прыгнечаньнем, вынікам якога на Захадзе было забясьпечаньне тэй формы рэлігійнае свабоды, якая называе сябе пратэстанцтвам. Ня ведала Расея й гнёту, а зь іншага боку й узгадавальнага ўзьдзеяньня схалястыкі, ды ня вырабіла тэй свабоды думкі, якая стварыла новую навуку"... (там-жа).

Ня будзем разглядаць тут пытаньне ці мае слушнасьць Данілеўскі ў дэталях свайго супроцьстаўленьня Расеі Заходняй Эўропе. Для нас даволі будзе прызнаць яму часткавую слушнасьць, каб ужо шмат у чым зразумець іншыя цывілізацыйныя асновы расейскае культуры.

Наступным і заканамерным будзе пытаньне: дзе ў гэтым цывілізацыйным камплексе канчаецца Расея й пачынаецца Ўсходняя Эўропа ў цэласьці? Пытаньне гэтае можа быць пастаўленае ў шмат якіх плашчынях. Можна, прыкладам, аднесьці да Ўсходня-Эўрапейскага культурна-гістарычнага камплексу саму Расею, далучыўшы да яе хіба ейных цюркскіх, усходня-фінскіх ды мангольскіх падданых. Гэта мы знойдзем ня толькі ў згаданых вышэй украінскіх гісторыкаў, але й у найноўшых працах у ангельскай мове Оскара Галецкага. Можна, зь іншага боку, паставіць пытаньне й пра ролю іншых усходня-эўрапейскіх народаў: беларусаў, летувісаў, украінцаў ды інш. Куды належыць іхная гісторыя? Ці былі гэта далёка высунутыя на ўсход арганічныя часткі Заходняй Эўропы? Ці, наадварот, гэта былі арганічныя часткі Эўропы Усходняй, адно тэрытарыяльна бліжэйшыя да Захаду й якія з гэтае прычыны перанялі ад гэтага Захаду шэраг ягоных рысаў і культурных асаблівасьцяў? Ці, нарэшце, гісторыя гэтых народаў зьяўляецца гісторыяй глыбокіх нутраных канфліктаў, якія вынікаюць з прычыны паміжлежнага, „міжкультурнага" палажэньня іхных земляў?

Усё гэта вельмі паважныя праблемы й ад іхнага вырашэньня шмат у чым залежыць уся ацэна гісторыі гэтых народаў ды праўдзівае разуменьне яе.




© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

Трэба адразу адкінуць кажную спробу падыйсьці да вырашэньня згаданых праблемаў з пазыцыі тых ці іншых палітычных інтарэсаў нашае сучаснасьці. Расейская імпэрыя, якая на цэлыя стагодзьдзі палучыла пад сваёй уладай шматлікія й разнародныя народы й нацыі Усходняэ Эўропы, мае гарачых абаронцаў і зацятых ворагаў. Якраз выходзячы з гэтых пачуцьцяў і пераконаньняў, шмат хто з гісторыкаў Усходняе Эўропы й дае кірунак сваім гістарычным паглядам. Сумліўна, ці гэта справядліва.

Расейская імпэрыя, як і ўсё на сьвеце, зьявішча часовае. Усходняя Эўропа магла быць палітычна нязлучаная ў вадну цэласьць (як гэта дагэтуль ёсьць з Эўропай Заходняй) і усёткі тэарэтычна быць адзіным цывілізацыйным цэлым. І наадварот, яна можа быць злучаная ў вадно дзяржаўнае цела, але ўсё-ж быць разнародным у сваім агульна-культурным зьмесьце камплексам. (Гэткім яна ўжо, без усялякага сумлеву й бывала, улучаючы ў сябе выразна заходніх фінаў ці палякаў ды выразна далёка-ўсходніх манголаў або карэйцаў). Само злучэньне ўсходня-эўрапейскіх народаў, — калі яно ўжо мела стацца — зусім не абавязкава мусіла адбыцца пад эгідай расейскае Масквы. Вельмі лёгка палітычным цэнтрам Усходняе Эўропы мог стацца ўкраінскі Кіяў ці беларуская Вільня, або й татарскі Сарай-Бэркэ. Мы ведаем, што спробы й змаганьне за гэткае пяршынство іншых, нерасейскіх народаў, запраўды мелі месца.

Падыходзячы з гэтага гледзішча спэцыяльна да гісторыі беларускага народу, трэба сказаць, што яна не дае выразнага й апрыёрнага адказу на пытаньне, арганічнай часткай якога „культурна-гістарычнага цыклю" было ягонае гістарычнае разьвіцьцё. А калі гэтак, дык трэба зьбіраць матар'ялы, якія могуць нам сказаць штоколечы ў справе вырашэньня гэтае праблемы. Тут, у гэтым артыкуле, можна закрануць хіба самыя агульныя (й далёка не вычарпальныя) аргумэнты.

У часы „князёўскія" (X-XIII ст. ст.) беларускія княствы, бясспрэчна, менш за ўкраінскія й расейскія, мелі тэндэнцыю да злучэньня ў ваднэй „рускай" цэласьці. Звычайна гэта тлумачаць тым, што тут была асобная князёўская дынастыя. Гэтае тлумачэньне мала пераканальнае. Нам думаецца, што яны вылучаліся нечым іншым і ў першую чаргу, як відаць, тым, што глыбіня супольных культурных уплываў (перадусім — уплываў бізантыйскіх) тут была меншая. Не малую ролю іграў таксама мамэнт расавай і культурнай блізіні да старых суседзяў (а магчыма й старых родзічаў), народаў „балцкае" групы — да лятувісаў і латышоў. Блізіня ды моц сувязяў з Заходняй Эўропай была тут ці не асабліва поўнай.

Ці рабіла гэта беларускія княствы часткаю Заходняй Эўропы, вылучаючы іх з усходня-эўрапейскіх камплексаў Кіяўскае імпэрыі й Суздальскае зямлі? Сьцьвярджаць гэта немагчыма: князёўская Беларусь была, агулам бяручы, усё-ж у коле палітычных і культурных уплываў усходня-эўрапейскага, „славяна-бізантыйскага" цыклю.

Ці прынесла якасныя зьмены новая эпоха, калі зарганізавалася вялікая „Літоўская" імпэрыя й калі (XIV-XVII ст. ст.) беларуская культура й мова сталіся асноўнай базай палітычнай і культурнай сувязі паміж паасобнымі й рознымі частками вялікага цела гэтае імпэрыі? Каб даць адказ на гэтую праблему — трэба вырашыць некаторыя ейныя часткі. Аднэй зь іх мае быць пытаньне пра гістарычныя заданьні, якія ставіў перад сабой „Літоўскі" дзяржаўны саюз, другой — пытаньне пра кірунак і шлях культурных уплываў і ар'ентацыяў.

Яшчэ Макіявэлі ўважаў, што „арганічнай" рысай кажнай дзяржаўнай арганізацыі, калі яна здаровая дзяржаўная арганізацыя, зьяўляецца нахіл да пашырэньня ейных межаў. У наш час з гэтым паглядам ня шмат хто мог-бы пагадзіцца. Але наш час — гэта час перамогі тэндэнцыяў стрымліваньня й абмяжаваньня вольнай гульні ў сфэры міждзяржаўных дачыненьняў. На гэта, ведама, ёсьць свае прычыны. Ды мы цяпер гаворым пра Вялікае Княства Літоўскае й пра часы Макіявэлі. Для тае эпохі ягонае цьверджаньне ня было памылковым.

Як здаровы й моцны арганізм XIV-XVI ст. ст. (гаворым цяпер адно пра гэты пэрыяд) Вялікае Княства Літоўскае вяло палітыку заваяваньняў. Гэтая палітыка даўгі час была ўдалай, а ейны кірунак быў выразны: ён ішоў па лініі змаганьня дзеля задзіночаньня вакол беларускае Вільні ўсіх галоўных частак усходня-эўрапейскага цыклю. Мы ведаем, што арганіч-

ным удзельнікам у дзяржаўным жыцьці Літвы-Беларусі быў побач зь беларускім і лятувіскі народ, да іх пазьней далучылася асноўная частка ўкраінскага жыхарства Прыдняпроўя, частквава й часова ўваходзілі сюды й часткі заходня-расейскіх княстваў. Даўгі час Віленскі князь быў найбольш магчымым кандыдатам на галаву вялікае ўсходня-эўрапейскае імпэрыі, што лучыла ў сабе ўсю асноўную прастору Ўсходняе Эўропы.

Мы гаворым пра гэты працэс таму, што гісторыя Ўсходняе Эўропы не тварыла дагэтуль магчымасьці сужыцьця (хоць-бы й далёка ня мірнага) розных нацыянальных самастойных дзяржаўных адзінак, як гэта было ў Эўропе Заходняй. Тут адзін арганізм імкнуўся стаць гегемонам над іншымі й, галоўнае, якраз тут ён здолеў гэтага дасягнуць.

Мы ведаем, што гэтая вялікая гістарычная наважнасьць літоўска-беларускіх князёў — злучыць пад знакам Віленскае Пагоні ўсю Усходнюю Эўропу — у канцы закончылася няўдачай. Вялікі паход на ўсход і поўдзень зьмяніўся палітыкай абароны перад усходам і поўднем, саюзу „Літвы" з Польшчай, вялікімі ўдачамі Масквы. Не беларуская Вільня, а расейская Масква сіламоц злучыла пад сваёй уладай народы вялікіх прастораў усходня-эўрапейскай раўніны. На даўгія гады расейская культура стала дамінантным выказьнікам творчых праяваў своеасаблівага генія ўсходня-эўрапейскіх нацыяў.

Чаму гэтак сталася? Нам адказваюць: вайсковыя няўдачы „Літвы". Ці гэта можа здаволіць нас? Матар'яльныя рэсурсы Вялікага Княства Літоўскага ня былі меншымі за рэсурсы Маскоўскага гаспадарства. Кажуць яшчэ: сацыяльны антаганізм паміж шляхтай і сялянствам. Але ці-ж ня было гэта скрозь у тагачаных дзяржавах? Нам кажуць: змаганьне спалячанае шляхты зь вернымі старой культуры народнымі масамі, змаганьне вуніі й праваслаўя. Але чаму мела месца гэтае змаганьне й у чым прычыны ўсёй ягонай гарачыні?

Мяркуем, што ўсе гэтыя факты мелі сваё значаньне, але асноўнай прычынай паразы „Літвы" быў дэманстратыўны выбар ейнай элітай заходняга (а ня ўсходняга) шляху. Адразу зробім заўвагу: гэты выбар і гэты шлях абяцалі й запраўды далі вельмі памысныя вынікі. Яны адкрылі жывую крыніцу больш сьпелае заходняе культуры й з гэтай крыніцы пілі ды ёй жывіліся найлепшыя дзеячы беларускага й іншых народаў Вялікага Княства. І калі мы гаворым пра гэта, як пра прычыну паразы, дык маем на ўвазе тое, што заходняя культура прывівалася да іншага культурнага пня. Гэта рабіла новую расьціну, хай і часова, але слабой. А перад ёй стаялі іншыя ўсходня-эўрапейскія грамады, усё менш і менш закранутыя заходняй культурай, далей-жа на ўсход незакранутыя зусім, ёй арганічна чужыя. Яны наважна супраціўляліся заходняй плыні й чым больш „заходняй" рабілася „Літва", тым мацнейшай і наважнейшай была сіла іхнага супраціву.

Чым паўнейшай была вэстэрнізацыя Вялікага Княства Літоўскага (у васнове якраз гэтак мае быць названы працэс вялікіх палітычных і культурных зьменаў XVI-XVIII ст. ст), тым большы яна сустракала адпор як унутры краіны, гэтак, і асабліва, звонку — з паўдня й з усходу. Калі вялікі князь прыняў каталіцтва й каталіцкі клер атрымаў шэраг прывілеяў, ды калі беларускі й лятувіскі шляхціч загаварыў папольску, — супраціў набыў яшчэ большую вайстрыню. Вось-жа ў самым працэсе ўсё большай і большай вэстэрнізацыі „Літвы" мы бачым нейкі дзіўны парадокс: чым паўнейшым і, здавалася-б, больш плённым ён быў — тым слабейшай і менш задзіночанай рабілася нацыянальная грамада.

Праўда, такога наважнага выступу супроць вэстэрнізацыі, як гэта было, прыкладам, на Ўкраіне ў часы Багдана Хмяльніцкага, на Беларусі-Літве ня было. Але й тут быў у сярэдзіне XVII ст. казацкі рух. І тут было войстрае змаганьне паміж каталіцтвам і вуніяй з аднаго боку, і праваслаўем зь іншага. Было-б дзяцінствам думаць, што гэтае змаганьне было толькі выяўленьнем пэўных рэлігійных адменаў. Ягоная абойстранасьць і глыбіня гавораць нам пра іншае — пра вялікае змаганьне дзьвюх культурных асноваў.

Час вялікае Літоўска-Беларускае дзяржавы зьяўляецца часам вялікіх культурных здабыткаў. Ці ня першым зь іх было стварэньне дасканалай сыстэмы праўных нормаў, сабраных у славутых Літоўскіх Статутах. Зацемім: Літоўскія Статуты праводзілі ў беларускую (украінскую, лятувіскую) грамаду вялікія прынцыпы праўнай сталасьці, праўнай адказнасьці, значаньне прыватнае ўласнасьці й г. д. Гэта былі вялікія прын-

цыпы рымскае, а пазьней і заходня-эўрапейскае цывілізацыяў. Але ўспрыймаліся яны беларускімі праўнікамі не мэханічна, а творча перапрацоўваліся на базе старых, адвечных праўных звычаяў княжае эпохі. Жыцьцё, аднак, уносіла ў гэтую тэарэтычна-сталую пабудову юрыдычных правілаў сваю карэктыву, робячы часта беларуска-лятувіскую грамаду краінай шляхоцкіх праўных парушэньняў.

У Вялікім Княстве Літоўскім, як у пэўнай цэласьці, мы выразна бачым грамаду пераходнага тыпу, у якой змагаліся паміж сабой заходнія й усходня-эўрапейскія цывілізацыйныя ўплывы. Некаторая, прынамсе вонкавая, перамога першых, адштырхнула ад беларуска-літоўскае дзяржавы суседнія землі з усходня-эўрапейскай культурнай асновай. Гэта аддало іх у канцовым выніку ў рукі Масквы. У самой-жа дзяржаве змаганьне дзьвюх цывілізацыйных асноваў гэтак і ня прывяло да здаровай і арганічнай іхнай сынтэзы. У гэтым была прычына, што ў канцы XVIII ст. Вялікае Княства паслабленае й нутрана вычарпанае, стала лёгкай здабычай Расеі.

Мінулі стагодзьдзі. У іхным часе беларуская грамада ня жыла творчым культурна-палітычным жыцьцём, аддаючы свае лепшыя сілы, сваіх найздальнейшых сыноў, ці расейскай ці польскай культурам. Сама-ж Беларусь заставалася краем, дзе спробы русыфікацыі мелі больш вонкавыя ўдачы, пакідаючы краіну ўсьцяж у тым-жа палажэньні наяўнасьці дзьвюх — заходняй і ўсходняй — эўрапейскіх культурных асноваў.

Вялікі рух беларускага нацыянальнага адраджэньня другой паловы XIX й першай паловы XX стагодзьдзяў меў перад сабой ня толькі заданьне адрадзіць ці пабудаваць нацыянальную народна-беларускую культуру. Перад ім павінны былі паўстаць і іншыя заданьні, а сярод іх адно з найважнейшых — вызначэньне „цывілізацыйнай базы" для гэтае пабудовы. У сувязі з гэтым наяўнасьць „шляхоцкіх" і „сялянскіх" плыняў у беларускай літаратуры й культуры не гавораць адно пра „клясавую" аснову гэтых адменаў. Наяўнасьць „каталіцкіх" і „праваслаўных" тэндэнцыяў гавораць ня толькі пра розьніцы ў рэлігійных паглядах. Культурнае „русафільства" ці „палянафільства" ня былі адно перажыткамі „адукацыйных уплываў". Справа, бясспрэчна, была больш складанай.



Беларуская культура яшчэ ня вырашыла гэтых праблемаў. Да гэтага часу на згаданым шляху стаялі пераважна вонкавыя перашкоды. Трэба спадзявацца, што здабыўшы магчымасьці вольнага разьвіцьця, яна дасягне таго, чаго не ўдалося вялікай Беларуска-Літоўскай дзяржаве XIV-XVIII ст. ст.: здаровай, арганічнай, да апошняй грані праведзенай сынтэзы сваіх цывілізацыйных асноваў. І для ўдачы гэтае справы ёсьць запарука: вялікая любасьць і вялікая ахвярнасьць, якая была асновай беларускага адраджэньня, пачынаючы ад ягоных першых крокаў.

Гэтая любасьць і гэтая ахвярнасьць неабходныя для творчага працэсу будовы ўсёй нацыянальнай асновы. Дасягнуўшы гэтай сваёй сынтэзы, беларускі народ будзе мець перад сабой вялікія творчыя магчымасьці. І хто ведае, можа — карысныя ня толькі для яго аднаго. Бо, магчыма, яны асьвецяць новым сьвятлом зь беларускай Вільні ці Менску й вялікія прасторы іншых усходня-эўрапейскіх земляў.

---

І то ёсьць нашая вольнасьць, катораю мы межы іншымі народамі хрысьціянскімі хвалімся, што пана, іж-бы водле волі сваей, а ня водле праў нашых панаваў, над сабою ня маем.

Канцлер ЛЕЎ САПЕГА
Прадмова да „Літоўскага Статуту", 1588 г.

І ці-ж гэта праваслаўнае прасьвятое быць пад уладаю й загадамі рабоў... Там у іх цары сваім царствам ня ўладаюць, а як ім скажуць іх падданыя, гэтак і кіруюць. А расейскія самадзержцы з самага пачатку самі над усімі сваімі гаспадарствамі ўладаюць...

Цар ІВАН ГРОЗНЫ
Ліст да князя Курбскага, 5 ліпеня 1564 г.

 

Др. УЛ. СЯДУРА

# Вытокі беларускага мастацтва

(Разьдзел з кнігі „Беларускае мастацтва")

## БЕЛАРУСКАЕ МАЛЯРСТВА

Разам з узьнікненьнем архітэктурнага мастацтва на Беларусі яшчэ ў старажытныя часы ўзьнікла й мастацтва замалёўваньня царкоўных сьценаў. На гэтай глебе расло беларускае малярства. Ягоныя помнікі ўжо ведамыя з 12 ст. Фрэскі Полацкага Барыса-Глебскага манастыра й Сьмядынскія росьпісы ў Смаленску, як найбольш старажытныя зь ведамых, сьветчаць, што ўжо тады былі свае беларускія маляры й дэкаратары. Цяпер яшчэ цяжка казаць, што ўжо ў той час была самастойная малярская школа ў сэнсе кірунку, бо занадта мала захавалася помнікаў тае пары ды гэтае пытаньне зусім ня вывучанае. Найхутчэй малярства тады яшчэ мела пабочнае да архітэктуры значаньне.

Аднак ведама, што арнамэнтныя формы смаленскіх Сьмядынскіх фрэскаў нагадваюць малюнкі ўсходніх і бізантыйскіх тканінаў, а полацкія фрэскі займаюць прамежнае месца паміж кіяўскімі й ноўгарадзкімі насьценнымі росьпісамі з ухілам да заходня-эўрапейскіх формаў у арнамэнтных дэталях. Захавалася колькі помнікаў беларускага малярства 14 ст., прыкладам, багатыя паліхроміяй у бізантычным стылю фрэскі Троцкага замку ды іншыя.

Сьляды сфармаванай беларускай школы малярства ўжо больш выразна відаць у шэрагу фрэскавых росьпісаў беларускіх мастакоў на тэрыторыі Польшчы ў 14 і 15 ст. ст. Яны зьвярнулі ўвагу цэлага шэрагу вучоных — дасьледнікаў, гісторыкаў і архітэктаў, якія стварылі пра іх вялікую літаратуру, пераважна ў польскай мове.

Ведама, што цэлы шэраг касьцёлаў на тэрыторыі этнаграфічнай Польшчы, як Вісьліцкі, Сандомірскі, Гнезьненскі ды інш., у часы Ягайлы былі размаляваныя насьценнымі фрэскамі ў бізантычным стылю ў той час, калі ўсюды там панаваў стыль ґотычны. Справа ў тым, што кароль Ягайла да свайго абраньня на польскі каралеўскі пасад усё сваё жыцьцё правёў на Беларусі й захаваў да сваёй радзімы асаблівыя сымпатыі аж да самога канца сваіх дзён. Таму, калі ўзьнікла патрэба размаляваць касьцёлы ў ягонай дзяржаве, Ягайла, прыгадаўшы высокія ўзоры царкоўнага малярства на Беларусі, загадаў запрасіць майстроў з свае бацькаўшчыны. Рахунковыя кнігі каралеўскага двара Ягайлы даюць некаторыя весткі дзеля асьвятленьня гэтага пытаньня. Зь іх відаць, што віленскія мастакі ў 1393-94 г. г. у Кракаве размалёўвалі сьцены каралеўскай спальні ў Вавэльскім замку, а таксама касьцёлаў Сьвятога Крыжа на Лысай Гары. Майстры-маляры былі абдораныя вялікай увагай, яны мелі забясьпечаны зварот на бацькаўшчыну пасьля заканчэньня працы. У рахунках яны называліся „**pistores Ruthenici**", што сьцьвярджае іхнае беларускае паходжаньне.





**Ушэсьце ў Сандомірскім касьцеле. Пачатак XV ст.**

У вадным рахунку ёсьць прозьвішча маляра „Владыка", якое было ў тыя часы ведамае сярод віленскіх прозьвішчаў. На вялікі жаль, якраз працы гэтых маляроў не захаваліся. Але захаваліся росьпісы ў Сандамірскай катэдры, фрэскі ў Люблінскім замку з надпісам на старой беларускай мове, зь якога відаць, што іх маляваў майстра Андрэй у 1413 г.

З пазьнейшых часоў, ужо з часоў Казімера-Ягайлавіча захаваліся фрэскі ў капліцы Сьв. Крыжа Кракаўскай катэдры. Яны таксама, як і Люблінскія фрэскі, маюць кірылічны надпіс на старажытнай беларускай мове й дату — 1478 г.

Польскія гісторыкі — Длуґош, Бельскі, Кромер, Вапоўскі ды інш., у сваіх працах даюць колькі весткаў пра цэлы шэраг



 



Успеніе ў Любліне. Майстра Андрэй. 1413 г.



Вялікі князь Ягайла. Копія XVII ст. з партрэту маляванага сучасным Ягайле беларускім майстрам. Перад вайной абраз знаходзіўся ў музэі Віленскага Таварыства Прыяцеляў Навук.

малярскіх працаў беларускіх (віленскіх ды іншых) маляроў у Польшчы. Гэта сьветчыць, што беларускае малярскае мастацтва ў часы Ягайлавічаў было вельмі пашыранае й што ў той час была ў Вільні асобная беларуская мастацкая школа, магчыма, як асобны цэх. Мастацкія прыймы й сродкі выкананьня згаданых фрэскаў маюць у сабе шмат агульнага й ствараюць адзіны беларускі мастацкі стыль 14-15 ст. ст.

Тагачасныя мастацкія традыцыі беларускага малярства сьцьвярджаюць, што яно было мастацтвам сваеасаблівага, асобнага кірунку, пабудаванага на бізантычных формах, але із самостойным трактаваньнем традыцыйных тэмаў. Бізантычныя каноны перадаваліся ім у вольным натуралістычным выяўленьні, бліжэйшым да натуральнасьці, чымся ў ноўгарадзкім малярстве, да якога аднак яно мае некаторае падабенства, галоўна з гледзішча агульна-бізантычных рысаў.

Беларускія маляры, датрымоўваючыся абавязкавых традыцыяў, мелі собскае мастацкае пачуцьцё таго, што выяўлялі на абразох і часьцей давалі яму волю. Вось чаму ў іхных





Ушэсьце. Люблінскі касьцёл сьв. Тройцы. Майстра Андрэй. 1413 г.



Апошняя вячэра. Фрэск у Люблінскім касьцеле сьв. Тройцы. Праца майстры Андрэя. 1413 г.



Супрасьльская Благавешчанская царква. Ніжняя частка заходняй сьцяны ў купальным асьмаку. Малявана ў 1557 г.



Партрэт маршала Вялікага Княства Літоўскага А. І. Хадкевіча (памёр у 1549 г.) у Супрасьльскай Благавешчанскай царкве. 1557 г.

працах, стварылася чыста мастацкая артыстычная каштоўнасьць. Гэтыя асаблівасьці беларускай малярскай школы 14-15 ст. ст. пазьней, калі асяродкі малярскіх школаў і традыцыяў перанясуцца з палянізаванай у 17 і 18 ст. ст. Вільні ў цэнтральную і ўсходнюю Беларусь — Віцебск, Магілеў, Слуцак — набудуць яшчэ больш выразныя формы выяўленьня, але прагэта будзе гутарка ніжэй.

Пашырэньне ды прызнаньне беларускага малярства ў 14 і 15 ст. ст. па за межамі Беларусі робіць шмат гонару беларускаму мастацтву й сьветчыць пра колішнюю перавагу беларускае культуры над суседнімі, асабліва над польскай.

Каб не зьвінавацілі нас у тэндэнцыйнасьці, дамо слова самым польскім гісторыкам мастацтва. Вось што піша Вайцяхоўскі ў манаграфіі ,,Kościół katedralny w Krakowie" (Кракаў, 1900, выданьне Кракаўскай Акадэміі Навук): „У 14 ст. няма ніякіх вестак пра кракаўскіх польскіх мастакоў. Згада-







ныя ў кракаўскіх гарадзкіх актах ,,pistores" маглі быць пазалотнікамі або лякіравальнікамі, бо калі ў Кракаве няма ніякага сьледу польскага малярства ды ніякіх вестак пра яго, дык гэта трэба вытлумачыць тым, што кракаўскія маляры таго часу маглі толькі хварбаваць сьцены й залаціць зоркі на іх, абразоў-жа не малявалі. Калі-б яны ведалі ды ўмелі больш, тады Ягайла ня мінуў-бы іх ды ня быў-бы вымушаны клікаць чужых майстроў".

Гэтае сьветчаньне з боку аб'ектыўнага чужынца добра ілюструе сілу й веліч беларускага генія ў старажытным беларускім мастацтве, які ўжо ў далёкім мінулым стварыў прызнаваныя ў сьвеце мастацкія каштоўнасьці.

Беларуская малярская творчасьць і 16 ст. дала шмат фрэскавых росьпісаў з тонкай арнамэнтальнай распрацовай у Благавешчанскай царкве Супрасьлеўскага манастыра на Горадзеншчыне (росьпіс 1551 г.)

## СТАРАЖЫТНЫЯ ШКОЛЫ БЕЛАРУСКАГА МАЛЯРСТВА

У 17 і 18 ст. ст. разьвіцьцё беларускага малярства набывае новы размах. Рост жыхарства й дабрабыту гарадоў, красаваньне, дзякуючы Маґдэбурскаму праву, рамесьніцкіх цэхавых аб'еднаньняў спрыялі й вылучэньню мастакоў у васобныя цэхі: залатароў, разьбяроў, дрэварытнікаў і маляроў. Заместа ранейшых манумэнтальных формаў мастацтва й вялікіх насьценных росьпісаў і фрэскаў цяпер малюецца шмат невялікіх малюнкаў, часьцей на драўляных дошках. З малых малюнкаў часам складаюцца большыя кампазыцыі, якімі дэкаруюцца іканастасы. Асобныя росьпісы часам яшчэ трапляюцца на сьценах драўляных будынкаў.

Ёсьць усе падставы ўважаць, што існавалі адмысловыя мастацкія цэхі ў Віцебску, Магілеве й Слуцку. Тагачаснае малярскае творства гэтых гарадоў дае ўсе падставы ставіць пытаньне пра беларускую малярскую школу. Якраз там найбольш выразна выявіўся адыход ад бізантычных прататыпаў і першаўзораў ды набліжэньне да некаторых заходняэўрапейскіх школаў. Адбывалася вызваленьне ад абразатворчых канонаў у бок малярскага натуралізму й дэкаратыўнай стылізацыі. З гледзішча стылістычнага тут можна адзначыць некаторае падабенства да нямецкага малярства 16 ст. Знаём-

ства з заходня-эўрапейскімі ўзорамі малярства ў часы выездаў на Захад прадстаўнікоў беларускіх малярскіх цэхаў мела ўплыў на тэхнічныя прыймы й фармальныя асаблівасьці старой беларускай школы малярства, на што зьвяртаў увагу яшчэ др. Іппель.

## МАГІЛЕЎСКАЯ МАЛЯРСКАЯ ШКОЛА

Магілеўская беларуская малярская школа вызначылася раней на цэлае стагодзьдзе за Віцебскую. Ужо ў палове 17 ст. для магілеўскіх маляроў была характэрнай тэхніка залочаных фонаў, часткава гладкіх, але часьцей — мярэжыстых з стылізаваным расьцінным арнамэнтам, уціснутым у ляўкас або пракладзеным рэльефам. [1]) Гэты апошні ў старажытнасьці называўся „кунштам малярскім, па золату рытым" ды сустракаўся ў 16 ст. у помніках гішпанскай і ніжня-райнскай школаў. Але ў вадрозьненьне ад іх беларускае малярства магілеўскае школы шырака выкарыстала й пазьнейшыя рэнэсансавыя й барокавыя формы арнамэнтальных матываў і, ускладніўшы імі сваю арнамэнтальную дэкарацыйнасьць, дало багатыя ўзоры самастойных малярскіх выяваў.

Разьвіцьцё магілеўскага малярства на працягу часу выклікала ў ім пэўную стылістычную разнастайнасьць. Лепшыя творы гэтае школы вылучаюцца маляўнічым рэалізмам. У іх можна знайсьці характэрныя бытавыя дэталі, натуралістычную капмазыцыю, праўдзівыя й характэрныя для Беларусі прысадзістыя чалавечыя постаці, арганічнае спалучэньне хварбаў у вадзінство прыемнага, звычайна мяккага й змроклага калярыту. Адыход ад кананічнасьці й прыцягненьне да апрацовы тэмы жывое натуры дазваляе мастаком уводзіць усё больш бытавых элемэнтаў, беларускую народную вопратку, асабліва арнамэнтальныя ўзоры тканіны, краявід і г. п. (абразы: Народжаньне Марыі — 1694 р., Узьнясеньне Крыжа — канец 17 ст., Народжаньне — канец 17 ст., Стрэчаньне — 1731 г.)

У канцы 17 ст. й на пачатку 18 ст. малярская праца магілеўскае школы ідзе на тэй-жа рэалістычнай аснове, але ўжо зь вялікім ухілам у бок большае дэкарацыйнасьці. Зь цягам часу, не бяз уплыву беларускага ксылографічнага мастацтва, асабліва гравюраў Кутэйнскай і Магілеўскай брацкіх друкарняў, адбываецца працэс пераходу маляўнічага прынцыпу ў графічны. Гэта асабліва кідаецца ў вочы ўжо ў працах 18 ст. Праўда, яны застаюцца ў сваёй канцэпцыі творамі тае-ж магілеўскае малярскае школы, якая ня ведае умоўных традыцыйных канонаў. Аднак, тут формы набываюць больш роўнічны характар без перадачы сьветлаценяў. Праўда, разам з гэтым увага пераносіцца на кампазыцыю, якой надаецца яшчэ большая гармонія ў вагульным разьмяшчэньні фігураў і апрацаваньні арнамэнтальнага фону. (Успеньне — 17 ст., Узьнясеньне — 17 ст., Тройца — 17 ., Тройца — 1675, Хрышчэньне, Стрэчаньне й Юры — канец 17 ст.).

Цікава, што разам з адыходам ад агульна-бізантычных канонаў выпрацоўваліся собскія беларускія каноны ў кірунку большага набліжэньня да жыцьцёвага праўдападабенства, выпрацаванага папярэдняй натурнасьцяй. Але й гэтыя каноны не ператварыліся ў вагульна-абавязвальныя схэмы й заўсёды распрацоўваліся зь некаторымі новымі рысамі, а то й зусім нанова. Гэта стварала беларукаму малярству апрычоную, сваеасаблівасьць, адменную ад суседняга малярства расейцаў і палякоў, ды набліжала да агульных прыймаў і кірункаў заходня-эўрапейскага малярства, асабліва нямецкага — з аднаго боку, ды да ўкраінскага абразатворчага малярства 17-18 ст. ст. — зь іншага.

Гэта знайшло сваеасаблівае выяўленьне і ў арнамэнтальных фонах у магілеўскім малярстве 17-18 ст. ст. [2]). Сам фон вакол арнамэнту запоўнены ўкладзенымі зігзагавымі палосамі, часам вэртыкальнымі, а часам і гарызантальнымі. Арнамэнт бывае рэльефны, вылеплены з ляўкасу, але часьцей абведзены па краёх укладзенай у фон тонкай лініяй.

Матывы — вылучна расьцінныя й адрозьніваюцца паводля тыпаў: 1) асымэтрычны, — зь няправільных, простых і

[1]) М. Шчакаціхін „Беларускае малярства ў 17 і 18 стагодзьдзях" („Каталёг аддзелу старажытнага мастацтва 1-ай Усебеларускай мастацкай выстаўкі". Менск, 1926 г.).

[2]) Т. Ржавуская „Арнамэнтаваныя фоны ў магілеўскім малярстве 17-18 ст. ст." (Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навукаў Інстытуту Беларускае Культуры, кніга 6, Працы Камісіі Гісторыі Мастацтва", Том І, сшытак 1, Менск, 1928 г.).





© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

крывых лініяў; 2) з стылізаваных лістоў і сьцёблаў, — правільны, мяккі й завіты; 3) ламаны, з вуглаватымі канцамі, асобныя часткі якога вольна разыходзяцца на ўсе бакі; 4) акруглены арнамэнт із стылізаваным сьцяблом.

Арнамэнт заўсёды непадзельна зьвязаны з кампазыцыяй, малюнак як-бы выходзіць з самога абраза й сымэтрычна разьмешчаны па абодвых бакох або атуляе яго.

Такія-ж фоны можна знайсьці й у нямецкім малярстве 14-15 ст. ст., станкавым і мініятурным. Там гэткі-ж самы расьцінны арнамэнт зь вітых бязконцых лістоў і сьцёблаў ды гэтак-жа гарманійна спалучаны з малюнкам.

Буйны, з крутымі завіткамі й добра згарманізаваны з агульнай кампазыцыяй арнамэнт, быў у тыя часы й на ўкраінскіх абразох. Магчыма, тут быў уплыў беларускага малярства на ўкраінскае, бо Беларусь тады мела больш непасрэдную лучнасьць з Захадам за Украіну ды апрача гэтага, зь Беларусі ў 18 ст. былі вялікія перасяленьні на Украіну, Але, магчыма, пэўны ўплыў на ўкраінскае малярства таго часу зрабіла замежная гравюра, бо ягоны арнамэнт меў у сабе шмат кніжнага.

На заканчэньне агляду беларускага малярства магілеўскае школы варта сказаць колькі словаў пра адкрытага нашым мастацтваведам М. Шчакаціхінам беларускага маляра канца 18 ст. Рыгора Мядзьвецкага. [3]) Знойдзены абраз выкананьня Рыгора Мядзьвецкага ў Ільінскай царкве ў Журавічах сьветчыць пра яго, як пра выдатнага прадстаўніка магілеўскае малярскае школы пазьнейшых часоў — канца 18 ст., як прадстаўніка маляўнічага рэалізму, ведамага ў пазьнейшых творах гэтае школы.

Абраз дае суцэльную фігуру Хрыста з узьнятай для бласлаўленьня правай рукой і круглай зелянавата-блакітнай дзяржавай — зямной куляй — у левай. Фон малюнку цёмны з цынамонава-шэрым адценьнем. Да яго дапасаваны чырвоны колер вопраткі, аздобленай цьмяным залатым арнамэнтам, і сіні колер плашча із плястычна перададзенымі хвалдамі. Тонка намаляваны твар зь вялікімі міґдалёвымі ачыма й выразна выгнутымі брывамі добра вылучаецца рэалістычна-маляўнічай падачай вопраткі з паступовым пераходам да змроклага сьвятла, да глыбокага ценю, які зьліваецца з фонам. Але ў той-жа час абраз адзначаны выразнымі індывідуальна-артыстычнымі рысамі мастака, своман яму манерай свабоднага разуменьня маляўнічых заданьняў, ламаньнем зьмярцьвелых традыцыйных схэмаў і канонаў. Рыгору Мядзьвецкаму было сваомым асаблівая любасьць да стрыманае цьмянае каляровае гамы, дакладнасьць малюнку й плястычнасьць у ягоным трактаваньні, тонкасьць малярскага выкананьня й дэталізаваная апрацаванасьць, але без залішняй падрабязнасьці.

Гэта быў спрактыкаваны майстра з добрым густам, вялікай здольнасьцяй і дасканалай тэхнікай валоданьня хварбай.

На вялікі жаль, ягоныя абразы трапілі ў няведамыя рукі й, мабыць, апрача згаданага вышэй, загінулі. Гэта перашкаджае даць поўную характарыстыку ягонай ролі й месца ў гісторыі старажытнага беларускага мастацтва.

Трэба дадаць, што наагул загубілася бальшыня імёнаў старажытных беларускіх маляроў і мастакоў, таму захаваныя да нашага часу іхныя абразы й творы найчасьцей бязыменныя.

## ВІЦЕБСКАЯ МАЛЯРСКАЯ ШКОЛА

Пераходзячы да кароткага агляду другое беларускае старажытнае малярскае школы — віцебскае, трэба адразу адзначыць, што яна выяўляецца на цэлае стагодзьдзе пазьней — толькі ў палове 18 ст. На ейнае фармаваньне зрабіла вялікі ўплыў малярская практыка магілеўскае школы. Кірунак, як і ў магілеўскай школе, азначаецца той-жа тэхнікай залатых арнамэнтаваных фонаў, але з большай яскравасьцяй хварбаў і лепшай, больш дасканалай, вырабленасьцяй. Гэта пераважна помнікі абразоў зь іканастасаў Увядзенскае (ад 1740 г.) й Ільінскае (ад 1750 г.) цэркваў у Віцебску. Тут захавалася й адзінае пэўнае для нас прозьвішча віцебскага маляра: на кампазыцыі на тэму змаганьня арх. Міхала з д'яблам захаваўся подпіс „Т. О. М."

У параўнаньні з магілеўскай арнамэнтыкай віцебскія абразы маюць большае багацьце формаў. Старанна апрацава-

---

[3]) М. Шчакаціхін „Рыгор Мядзьвецкі — невядомы беларускі мастак канца 18-га стагодзьдзя" (Згаданыя вышэй „Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навукаў".).

ныя віткі тут моцна пераплятаюць стылізаваныя расьцінныя формы й твораць заграмаджаньне прасторы, якое нагадвае ўжо мазаіку (абраз „Паднясеньне Крыжа” 1740 г.). Лісты твораць буйныя віткі, аздобленыя зубчыкамі. Багата формаў дзесяціканцовых кветак у шырокай рамцы із сьцёблаў, трыканцовыя лісты на ствалох, тонкія канцы, якія сымэтрычна пераплятаюцца, нагадваючы вусікі вінаграду. На віцебскіх абразох ствол творыць зусім натуральную галінку з праўдзівымі лісточкамі й кветкамі з круглай сэрэдзінай і пяцьма пялёсткамі, тады як на магілеўскіх абразох яны стылізаваныя.

Калі ў магілеўскім арнамэньце фон запоўнены часьцей паўтарэньнем аднаго й таго-ж матыву, дык на віцебскіх абразох шмат дробных разнастайных формаў і матываў на адным і тым-жа абразе.

Віцебскі арнамэнт, як і магілеўскі, вельмі сымэтрычны. Яму амаль ня свомыя несымэтрычныя кампазыцыі, якія ёсьць у эвангелічных магілеўскіх абразох.

Большая кампазыцыйная складанасьць віцебскага арнамэнтаваньня, відаць, тлумачыцца пазьнейшым часам, калі ўжо больш ўдасканалілася й сусьветная практыка малярскага арнамэнту пад уплывам барока й да яго падобных адменаў у мастацтве. Але ў абедзьвюх школах — і магілеўскай, і віцебскай — адчуваецца нейкая агульнасьць прыймаў і стылёвых асаблівасьцяў.

Гэта сьцьвярджаецца й двума іншымі кірункамі віцебскае малярскае школы, хоць там яшчэ й больш адчуваецца незалежнасьць ад Магілеву. Графічнае, маляўнічае або дэкарацыйнае вырашэньне асноўнага прынцыпу — натуралізму — лучыць абедзьве беларускія малярскія школы пэўным адзінством ды стварае асобны твар, у чым выяўляецца характэрнасьць і сваеасаблівасьць старажытнага беларускага мастацтва.

Два іншыя віцебскія кірункі ў малярстве выявіліся пераважна ў кампазыцыях былое Латыгаўскае царквы й характарызуюцца з боку формы прымітыўнай графічнасьцяй малюнку й бледнай роўнічнай і роўнічна-лінійнай расхварбовай. Розьніца паміж імі галоўна ў ступені вольнага абыходжаньня з канонамі й у структуры кампазыцыі. І калі адзін кірунак нязвычайна цікавы з боку распрацаваньня собскіх беларускіх канонаў, дык другі адзначыўся ўвядзеньнем вялікай колькасьці нацыянальных асаблівасьцяў у дэкарацыйную арнамэнтацыю, жыцьцёва праўдзівых постацяў чалавека зь індывідуальна-непаўторнымі прыроднымі рысамі.

Цікавы артыкул пра малярскія абразы віцебскае школы пакінуў ужо згаданы мастацтвавед М. Шчакаціхін пад загалоўкам „Матар’ялы да гісторыі беларускага мастацтва 18 сталецьця. Збор Віцебскага аддзяленьня Беларускага Дзяржаўнага Музэю” (першы том непэр’ядычнага органу Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства — „Віцебшчына”, Віцебск, 1925 г.). Аўтар досьледу вылучае з агульнае масы абразатворчага матар’ялу цікавую групу 22 помнікаў з Латыгаўскай і Ўвядзенскай цэркваў ды паводле асаблівасьцяў пісьма й стылістычных адзнакаў падзяляе іх на тры групы:
1) лінійна-роўнічныя кампазыцыі (8 узораў);
2)кампазыцыі маляўніча-дэкарацыйнага характару (5 узораў);
3) кампазыцыі маляўнічага (часам маляўніча-мазаічнага) характару на арнамэнтаваных, у бальшыні залатых, а часам сярэбраных фонах (9 узораў, пераважна зь іканастасу Ўвядзенскай царквы).

У надрукаванай частцы артыкулу аўтар разглядае толькі першую групу — лінійна-роўнічныя кампазыцыі, абразы: „Нараджаньне” — першай паловы 18 ст., „Узьнесеньне прарока Ільлі” — 1744 г., „Архістраціг Міхал і прарок Ілья” — першай паловы 18 ст., „Архістраціг Міхал і сьв. Мікола”, „Апосталы Пётра й Ян”, „Благавешчаньне й сьв. Параскоўя”, „Юры й Васіль”, „Уваскрошаньне” — першай паловы 18 ст.

Зрабіўшы падрабязнае апісаньне кампазыцыяў і малярскае тэхнікі кажнага зь пералічаных абразоў, аўтар робіць слушныя й цікавыя абагульненьні.

Папершае, ён адзначае іхнае адзінства што да часу й месца зьяўленьня. Для ўсіх характэрны лінійна-графічны падыход да пабудовы формаў і роўнічнае трактаваньне каляровых паверхняў. Усе абразы тут будуюцца на лінійнай выразнасьці й вылучэньні графічна-азначаных сілюетаў захварбаванае паверхні. Роля хварбы тут ня мае першараднага значаньня, ёю толькі зацямняюцца колеры ў спакойным спалучэньні, без каляровых пераходаў і сьветлаценяў, роўным аднакалёрным пластом без аніякіх зьменаў ці мадуляцыяў. Тут,

як можа нідзе, відаць набліжэньне да прымітыўнае гравюры на дрэве, у якой рысунак таксама будуецца вылучна на кантрастах цёмных і сьветлых плямаў у спалучэньні з чыста лінійнымі формамі й без азначаньня колерных пераходаў ад цёмнага да сьветлага й падобных. Магчыма, тут маем уплыў гравюрных узораў. Асабліва можна адзначыць падабенства гэтых латыгаўскіх кампазыцыяў да гравюраў Кутэйнскага „Трыфолёгіона" — 1647 г. Праўда, гэтае падабенства відаць толькі ў дэталях, але магчыма тут быў уплыў якіх колечы й іншых гравюрных узораў.

З боку кампазыцыі тут можна бачыць поўную незалежнасьць ад абразатворчых помнікаў Ноўгараду, Масквы й Польшчы.

Цікава адзначыць, што пэўная залежнасьць ад традыцыйных абразатворчых бізантычных канонаў тут ніколі не пераходзіць у поўную тожсамасьць ці перайманьне. Нават у абразох, што маюць агульныя бізантычныя першаўзоры, як „Мікола", „Ільля", „Васіль", „Юры", „Параскоўя", ня гледзячы на іхную традыцыйную кананічнасьць постаці й атрыбутаў, апошнія зьмененыя шэрагам мясцовых тыповых асаблівасьцяў, што вырозьніваюць іх ад іншых абразатворчых небеларускіх школаў: індывідуальныя рысы твару з нацыянальнымі адценьнямі, дэталямі вопраткі, арнамэнту й падобнае.

Што да групы абразоў, як „Нараджаньне", „Уваскрошаньне", „Узьнесеньне Ільлі", дык яны ўжо пабудаваныя зусім самастойна й нічым не нагадваюць іншаземных малярскіх абразатворчых структураў. Гэта зусім самастойная беларуская малярская адмена агульна-вызнаваных хрысьціянскіх фігураў, як „Архістраціг Міхал", „Анёл" ды інш. Так, скажам, цікава адзначыць у вабразе „Нараджаньне" гэткія дэталі, як тыповая для беларускіх кампазыцыяў гэтае тэмы фігура дзіцяці Хрыста, спавітая вузкім даўгім паяском, або саламяная страха на будынку, як на сялянскіх беларускіх хатах.

Вобраз архістраціга Міхала мае агульны тып твару з гэтым-жа вобразам на аднэй з гравюраў Кутэйнскага „Трыфолёгіона": даўгія, спушчаныя на плечы валасы, падзеленыя пасярэдзіне простым перачосам. Падобнае й агульнае разьмяшчэньне фігураў. Вопратка на Міхалу гэтаксама мае характар бытавы, запазычаны з натуры.



У вобразе Параскоўі цікава адзначыць, што нават у трактаваньні галаўнога ўбору выявілася беларускасьць: пад традыцыйнай каронай, на фоне залатога німбу, яснай белай плямай выглядае пакрыцьцё, падвязанае падобна да беларускае наміткі.

Рэалістычнае трактаваньне пэрсанажаў абстановы, выразна-жыцьцёвыя рысы шмат якіх вобразаў, жывы расьцінны арнамэнт і бытавыя дэталі ў вабразох, маляваных нават паводле кананічных патрабаваньняў — сьветчаць пра сілу імкненьня беларускага мастацкага таленту да праўдзівасьці й жыцьцёвага мастацтва. Пачуцьцё мастацкае праўды штурхала беларускіх мастакоў, наўсуперак традыцыйным вымогам устаноўленае ад вякоў схэмы, карыстацца натураю й уводзіць у свае творы адбіткі тагачаснага жыцьця. Усё гэта разам надало беларускаму старажытнаму мастацтву гэтулькі самабытных рысаў, што асаблівасьці ягоныя стварылі свае самастойныя малярскія стылі й цэлыя школы ды заўсёды вырозьніваюць беларускае мастацтва як самастойна-гістарычную асобнасьць у сусьветнай гісторыі мастацтваў.

Трэба вясьці далей адшуканьне скарбаў беларускага мастацтва й навукова вывучаць ягоныя помнікі, раскрываючы сьвету ягоныя асаблівасьці й каштоўнасьці. Гэтак, зусім ня вывучаная ды чакае сваіх дасьледнікаў-піянераў багатае помнікамі мастацтва Случчыны, а гэтак сама й Палесься, дзе калісьці ў ягоным старажытным цэнтры Тураве, а пазьней і ў іншых месцах бурна кіпела багатае культурнае й мастацкае жыцьцё. Некаторыя малярскія помнікі сьветчаць пра існаваньне трэцяй, Слуцка-Палескай малярскай школы (кірунку). Можа будучыня й спрычыніцца да адшуканьня гэтых матар'ялаў і помнікаў, калі толькі бог вайны зьлітаваўся ды ня зьнішчыў дашчэнту й без таго разбураныя, сьвятыя для беларускага мастацтва месцы.

МІКОЛА КУЛІКОВІЧ

# БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫКА

(Заканчэньне)

## РАЗЬДЗЕЛ ПЯТЫ

## ДА НОВАГА АДРАДЖЭНЬНЯ

### 1.

Грамадзкія падзеі ў Расеі 40-60 гадоў XIX ст., пара „асьветніцтва” й узмацненьне рэвалюцыйных ідэяў, маюць сваё значэньне й для беларускага нацыянальна-адраджэнчага руху.

Беларуская інтэлігенцыя была стрыжнём таго руху, што ішоў яшчэ ад першых спробаў у пару Рэнэсансу (час Скарыны й першай пляяды беларускіх культурных дзеячоў). На першым месцы тут былі літаратурныя дзеячы, пісьменьнікі й паэты: П. Бахрым, Я. Баршчэўскі, В. Равінскі, А. Рыпінскі, Я. Чачот, В. Дунін-Марцінкевіч ды іншыя. Іхная літаратурная спадчына й была аб’ектам музычнай творчасьці гэтага часу.

Папулярнасьць твораў гэтых аўтараў ды імкненьне паклясьці іх на музыку вызначылі шлях дзейнасьці **аматараў-кампазытараў** з асяродзьдзя беларускай інтэлігенцыі. Ад сярэдзіны XIX ст. пачынаецца запраўдная беларуская **нацыянальная музычная творчасьць.** Першым яе жанрам была **рамансава-песенная музычная літаратура.**

Ёсьць падставы ўважаць, што першым узорам гэтай дылетанцкай рамансава-песеннай беларускай творчасьці была рэч аматара-кампазытара **Антона Абрамовіча** „Ах, чым-жа твая, дзеванька, галоўка занята”, на словы ведамага беларускага паэты таго часу Я. Баршчэўскага. Верш паўстаў у 1809 г., а неўзабаве была напісаная й музыка. Раманс хутка ўвайшоў у хатняе музыкаваньне й праз доўгія гады быў папулярным і ўлюбёным творам. Мэлёдыя рамансу захавалася й да нашых часоў.



**Ах, чым-жа твая дзеванька галоўка занята**




Паводле тагачасных сьветчаньняў, у 1843-45 гадох у Беларусі вялікую папулярнасьць у хатнім музыкаваньні мелі яшчэ дзьве песьні-рамансы: 1. „Заграй, заграй хлопча малы й у скрыпачку, і ў цымбалы” на словы П. Бахрыма, і 2. „Эх, каб нам быць весялей” на словы Я. Чачота.

У тых-жа колах беларускае інтэлігенцыі пачынае ўваходзіць у звычай хатняе **выкананьне беларускага песеннага й танцавальнага фальклёру.** Тут-жа робяцца й **першыя творчыя спробы апрацаваньня народнае песеннасьці** для сольнага, інструмэнтальнага й харавога выкананьня.

Рост літаратурнай ды музычнай дзейнасьці беларускага адраджэньня прыводзіць у сярэдзіне XIX ст. да выдатнага палітычнага й культурнага зьявішча — стварэньня **першай беларускай опэры „Сялянка”.** Аўтарамі опэры былі выдатны беларускі пісьменьнік **В. Дунін-Марцінкевіч** (тэкст) і кампазытар **С. Манюшка** (музыка). Зьмест двуактавай „Сялянкі” яшчэ просты й наіўны, ён ідзе да сьцьверджаньня вуснамі гераіні опэры, паненкі Юлі, перапранутай у сялянскую вопратку, што „Бог на небе й паноў, і мужыкоў роўна ўважае”.

„Сялянка” была пастаўленая на сцэне Менскага тэатру Поляка ў 1852 г. (тэатр гэты ў 1874 г. згарэў). Паводле сьветчаньняў расейскае й польскае прэсы, спэктакль гэты меў надзвычайную ўдачу ў самай разнастайнай публіцы, ён ня раз паўтараўся й быў „модным здарэньнем часу”. Сталіся „моднымі” людзьмі й Дунін-Марцінкевіч ды Манюшка. Хоць „Сялянка” была яшчэ напалову польскаю п’есаю (паны ў ёй гавораць папольску, а сяляне пабеларуску) і мела польскія

 

ўплывы, але абодвы прыяцелі-аўтары здолелі ў ёй даволі ўдала паказаць быт беларускага народу.

Спыняючыся на музычным баку „Сялянкі” трэба адцеміць, што С. Манюшка адразу паказаў сябе як знаўца беларускага фальклёру, ён безпасярэдня, калярытна **апрацаваў** яго й рассыпаў шчодрымі жменямі па ўсёй п'есе. Манюшка ня толькі ішоў тут за Дуніным-Марцінкевічам у паказе абрадаў і звычаяў беларускае вёскі, але шмат дадаў ад сябе своеасаблівай прыгажосьці згусьціўшы вобразнасьць. Апрача гэтага Манюшка, як выдатны музыка, што добра валадаў кампазытарскай тэхнікай, узьняў апрацову беларускага фальклёру й творчае яго выкарыстаньне на значную музычную вышыню.

Паводле формы „Сялянка” ня ёсьць запраўднай опэрай, а драматычнаю п'есаю, у якой багата выкарыстаная музыка (увэртура, інтродукцыя, арыі, дуэты, ансамблі, хоры, танцы). Гэта **форма** т. зв. **„Зынґшпіля”** (знаёмая нам яшчэ із скамарошых дзеяў і інтэрмэдыяў у школьных драмах). Гэтай форме зынґшпіля выпала гістарычная роля яшчэ доўга быць **асноваю тэатральна-музычнага спэктаклю ў Беларусі,** аж пакуль не насьпее час прыходу запраўднае опэры (гэтак было й у ўкраінскім тэатральным мастацтве).

Незважаючы на гэта, для гісторыі беларускае музыкі „Сялянка” мела **нязвычайна важнае значэньне.** Па першае, гэта быў **першы беларускі твор вялікае формы,** што паклаў фундамэнт **новаму этапу** ў гістарычным разьвіцьці беларускае музыкі. Па другое, гэта быў першы твор у якім поўна й яскрава загучэў з тэатральнае сцэны для шырокае грамадзкасьці **беларускі фальклёр.** Нарэшце, па трэцяе, гэта была **першая прафэсіянальная** высокакваліфікаваная **беларуская музыка,** напісаная майстраю сваёй справы, што паставіла пытаньне аб **паважнай творчай працы над беларускаю песеннасьцяй.**

Пра справядлівасьць гэткай ацэны „Сялянкі” могуць сьветчыць далейшыя падзеі ў галіне беларускага тэатральнага й музычнага мастацтва. Пасьля „Сялянкі” Дунін-Марцінкевіч і Манюшка разам працуюць і ствараюць новыя п'есы-зынґшпілі. Гэта былі: „Гапон”, „Залёты” й „Вечарніцы”. Як мы ўжо бачылі, для самога Манюшкі праца над беларускім фальклёрам мела вялікае значэньне й зрабіла пазьней уплыў на ягоныя польскія запраўдныя опэры „Гальку”, „Страшны двор” ды іншыя. У іх ён ня раз выкарыстаў, часам нават і бязьзьменаў, матар'ялы беларускіх зынґшпіляў.

Манюшка прыцягнуў да гэтай працы яшчэ некалькі кампазытараў, а між імі **Крыжаноўскага,** які супольна з Манюшкаю пісаў „Гапона” й „Залёты”. На тэксты Дуніна-Марцінкевіча пісала таксама й жанчына-кампазытар **М. Кімонт** („Залёты”).

Сьледам за творамі Дуніна-Марцінкевіча й Манюшкі прыходзяць п'есы гэткай-жа формы пісьменьніка **Сыракомлі,** для якіх музыку піша кампазытар **Ф. Лапацінскі.** На тэксты Сыракомлі складаў музыку й вялікі аматар-музыка **Ян Карловіч** (бацька кампазытара Мячыслава Карловіча), у сям'і якога беларуская песьня й музыка (творы Манюшкі) былі ўлюбёнаю творчасьцяй.

Разьвіцьцё музычных падзеяў у Беларусі XIX ст. зрабіла ўплыў і на выраб інструмэнтарыя. У местах Беларусі сталі закладацца майстроўні й супалкі для вырабу клявішных і струнных інструмэнтаў. Найбольшае значэньне ў гэтым кірунку мела пабудаваная **ў Менску фабрыка клявіраў** (раялі й п'яніны) Фота (на пачатку XIX ст.), ды **майстроўня цымбалаў у Барысаве.**

## 2.

Грамадзкае жыцьцё канца XIX й пачатку XX ст. ст., рэвалюцыйныя рухі ды паўстаньні, яшчэ больш узмоцнілі ідэі вызваленьня ды нацыянальна-вызваленчыя плыні. Асаблівае значэньне мела тут паўстаньне 1863-64 г. г. ды „Мужыцкая праўда” Кастуся Каліноўскага (1862-63).

У беларускай літаратуры канца XIX ст. зырка заблішчэла імя Ф. Багушэвіча, „бацькі беларускага адраджэньня”, і цэлае пляяды ідэйных паэтаў і пісьменьнікаў. У сваіх мастацкіх творах, публіцыстыцы, адозвах, яны заклікалі народ шанаваць, паважаць і любіць сваю беларускую мову, звычаі, народную вопратку, песьні. Вялікую актыўнасьць праявіла тут і беларуская вучнёўская моладзь, што была раскіданая па навучальных установах Расеі. Моладзь пачала арганізоўвацца, ствараць свае палітычныя й культурна-нацыянальныя

 

 

гурткі ды аб'яднаньні (у Пецярбурзе, Маскве, Варшаве, Кіяве, Харкаве, Менску, Магілеве, Адэсе й іншых местах). Асаблівага ўздыму нацыянальны рух набывае **ў сувязі з падзеямі** рэвалюцыі 1905 — 1906 г. г. Цэнтрам яго становіцца беларуская газэта „Нашая Ніва" (Вільня 1906 — 1915 г. г.), вакол якой групуюцца лепшыя беларускія сілы, пісьменьнікі й паэты: Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, А. Гарун, М. Гарэцкі, Цётка, Ядвігін Ш., К. Каганец, З. Бядуля й іншыя. Ад назову газэты „Нашая Ніва" й увесь гэты пэрыяд атрымвае назоў **нашаніўскае пары** (1906 — 1915).

Музычнае мастацтва займае тут яшчэ другараднае месца ў прыраўнаньні да беларускай літаратуры. Галоўнаю прычынаю гэтага была нястача свае прафэсійнае беларускае музычнае інтэлігенцыі. Лепшыя ейныя прадстаўнікі ў выніку гістарычнага палажэньня пайшлі працаваць для пануючых культурна нацыяў. Сваіх узгадаваўчых навучальных музычных установаў у Беларусі ня было. На ўвесь, празываны тады, „Северо-Западны Край", у які адміністрацыйна ўваходзілі Віленская, Віцебская, Магілеўская й Сувальская губэрніі, была толькі **адна музычная школа** Імпэратарскага Расейскага Музычнага Таварыства **ў Вільні,** у якой усё ўзгадаваньне вялося ў расейскім духу.

Становішча беларускіх музычных прафэсіяналаў было вельмі незавіднае. У найлепшым выпадку яны працавалі настаўнікамі ў школах, музыкамі ў аркестрах, сьпевакамі ў хорах. Але й пры такім стане музыка ўсё-ж здолела адгукнуцца на падзеі свайго часу. Вялікую тут ролю адыгралі **настаўніцкія й духоўныя сэмінарыі,** у якіх была даволі добра пастаўленая музычная асьвета (сьпеў, музыка, ігра на скрыпцы, тэорыя, дырыгаваньне), і няраз сярод моладзі адчуваўся моцны адраджэнча-нацыянальны дух. Менавіта з гэтага асяродзьдзя пазьней вышаў цэлы шэраг беларускіх нацыянальных музычных дзеячоў.

Ня маючы змогі заняць вядучую ролю ў адраджэнчым руху, музыка ўсё-ж была верным ягоным сябрам і спадарожнікам. Тут у першую чаргу, як і раней, вялікае месца займае **беларускае песеннае музыкаваньне, —** сольнае й харавое пяяньне народных песьняў. Зацікаўленасьць імі паслужыла новым штуршком да шырокага **зьбіраньня беларускага фальклёру.** Гэта цяпер робяць ужо ня толькі этнографы, але ў значнай меры й інтэлігенцыя наагул: настаўнікі, вучні.



Зьяўляюцца й першыя спробы ягонай **гарманізацыі й апрацаваньня.** У гэтай галіне даволі сумленную працу пакінуў кампазытар **Л. Рагоўскі,** які выдаў першы ў Беларусі зборнік гарманізацыяў беларускіх песьняў. Рагоўскаму належыць і першы твор для сымфанічнае аркестры — аркестровая сюіта. Праўда, яна мае толькі гістарычнае значэньне. Таксама значную карысьць далі ў гэтым хатнім і грамадзкім музыкаваньні зборнікі запісаў і гарманізацыяў беларускіх песьняў **А. Грыневіча.**



**Сваяручныя запісы беларускіх народных песьняў М. Карловіча.**
**Рукою кампазытара адцемленыя побач дата й месца запісаў: Вішнява 13.VIII. 1900, Гаркале 23.VIII. 1900, Лешчаняты 23.VIII. 1900 (Гаркале й Лешчаняты — вёскі Войстамскай воласьці, а Вішнява — Вішнёўскай, Вялейскага павету).**

На пачатку дзевятсотых гадоў на Віленшчыне вырастае даволі значная фігура кампазытара **Мячыслава Карловіча** (1876 — 1909). Ад свайго нараджэньня (у Вішняве, Вялейскага павету), да канца кароткага жыцьця М. Карловіч захаваў **арганічную сувязь** зь беларускасьцяй: прыродай, народам, песьняй. Сымфаністы паводле свае музычнае мэтанакіраванасьці, Карловіч у сваіх найлепшых творах пакінуў прыго-

жыя ўзоры выкарыстаньня беларускае песьні. Гэтак у сымфанічнай паэме „Адвечныя песьні" ён дае матывы беларускіх хаўтурных песьняў, а свой галоўны твор, „Літоўскую рапсодыю" (таксама сымфанічная паэма) будуе цалком на беларускіх жніўных песьнях, якія ён слухаў сярод сялян у родных мясьцінах. Пра „Літоўскую Рапсодыю" сам Карловіч пі-




**Беларуская жніўная мэлёдыя — аснаўны матыў „Літоўскай Рапсодыі" М. Карлювіча**

саў: „Хацеў заклясьці ў ёй увесь жаль, сум і спрадвечную няволю таго народу, песьні каторага ў маім маленстве зьвінелі". Значэньне М. Карловіча для беларускае музыкі вялікае. Ён першы ўвёў беларускі фальклёр у **сымфанічную эўрапейскую літаратуру.** Ягонае значэньне можа быць прыраўнанае да значэньня Манюшкі, які першы ўвёў беларускую песьню **ў опэру.**

### 3.

Шырокае разьвіцьцё набывае творчая дзейнасьць у галіне стварэньня **нацыянальнага песенна-рамансавага жанру** на словы ведамых паэтаў таго часу.

Ідэйны ўздым нашаніўскай пары спрыяў стварэньню **беларускае патрыятычнае музычнае літаратуры:** песьняў і гімнаў. Сюды належаць: „А хто там ідзе" Л. Рагоўскага на словы Я. Купалы (1908), „Не пагаснуць зоркі ў небе" М. Янчука на словы Купалы (1911 г., у ёй, паводле традыцыі, захаваная мэлёдыя агульнаславянскага гімну „Гэй, славяне").

У гэты час аднаўляецца й тэатральная дзейнасьць. У Вільні паўстае драматычнае аб'еднаньне пад кіраўніцтвам Ф. Аляхновіча (1910). Музыка займае важнае месца, як неадлучная частка кажнага спэктаклю.

Яшчэ большае разьвіцьцё ў нашаніўскую пару набывае **аматарскае музычнае мастацтва** (музычная самадзейнасьць). Тут было запраўднае масавае захапленьне. Аматарскі музыч-



ны рух ахапіў найшырэйшыя колы сярэдняй і нізавой інтэлігенцыі, знайшоў там асаблівую папулярнасьць, чуласьць, водгук і падтрыманьне, паклікаў усё новыя й новыя сілы выканаўцаў. Ува ўсёй Беларусі паўставалі **мастацкія гурткі,** пераважна **музычныя, харавыя й танцавальныя,** частка якіх дасягае ўзроўня прафэсійных музычных арганізацыяў. Найлепшым і наймацнейшым быў гурток пад кіраўніцтвам таленавітага арганізатара, актора й танцора **Ігната Буйніцкага.** Паўсталы ў Вільні гурток Буйніцкага хутка робіцца ведамым і паступова ператвараецца ў запраўдны **тэатр малых формаў** (эстрадны тэатр) ды з асаблівою ўдачаю аб'яжджае па ўсёй Беларусі. У складзе тэатру, апрача драматычных актораў, былі **хор, балет і нават собскі інструмэнтальны ансамбль,** які меў скрыпачоў, дудароў, цымбалістых і бубністых. Пра тое ўражаньне, якое рабілі выступы тэатру Буйніцкага, найлепш сьветчаць рэцэнзіі газэты „Наша Ніва". Колькі радкоў з аднае рэцэнзіі тут варта прывясьці:

...„Чутны быў не разгул вялікароса з пад Волгі, ня гульня паляка, але замкнутая ў сабе самой душа нашага беларуса зь лясіста-балоцістае, старое нашае бацькаўшчыны. Уся заля сталася быццам морам народным, усё трэслася ад воклікаў: „брава, брава, беларусы!"... Хору прыйшлося па колькі разоў пяяць. Так віталі людзі ўсіх нацыяў беларускую песьню, якая цяпер адразу выйшла на сьвет шырокі... Пачаліся танцы: Лявоніха, Мяцеліца, Юрка й Верабей пад вясковую беларускую музыку..."

Вільні ў гэтую пару выпала доля стацца цэнтрам культурнага ўздыму, у тым ліку й музычнага. Тут у пяршыню творацца музычныя гурткі, ладзяцца іхнія публічныя выступы, нараджаецца новая спэцыфічная арганізацыйная форма аматарскіх паказаў, пад назовам **беларускія вечарыны.** Гэта былі спэктаклі-канцэрты, якія нагадваюць сучасныя эстрадныя выступы. У іх былі папулярныя тагачасныя сцэны зь п'есаў („Модны шляхцюк", „Паўлінка", „Міхалка", „Пашыліся ў дурні", „Па рэвізіі") із сьпевамі ды скокамі, дэклямацыя беларускіх вершаў і празаічных адрыўкаў, сольнае й харавое пяяньне, інструмэнтальная музыка й балет. Усё гэта неадступна датрымоўвалася ў беларускім народным духу.

Беларускія вечарыны сталі тыповаю формаю аматарскіх спэктакляў і зь Вільні пашырыліся не адно на ўсю Беларусь, але набылі ведамасьць, посьпех і папулярнасьць у Расеі ды іншых краінах, дзе толькі існавалі беларускія асяродкі. Усюды беларускія вечарыны ператвараліся ў палітычныя зьявішчы, у нацыянальныя сьвяты, да якіх гледачы рыхтаваліся ня менш за актораў, а ў часе паказу заля й сцэна ў духовым уздыме зьліваліся ў вадно.

Нашаніўская пара, узгадаваўшы й скансалідаваўшы творчыя сілы беларускае нацыянальнае інтэлігенцыі, пасеяла зерне, зь якога вырасла **беларуская нацыянальная прафэсійная музыка.** Менавіта ў гэты час пачала складацца нацыянальна-беларуская музычная школа, якая паставіла сабе за мэту творчую дзейнасьць на нацыянальным беларускім грунце. На чало гэтае школы гісторыя беларускае музыкі вылучыла імя кампазытара **І. Тэраўскага,** які разам із сваімі аднадумцамі й творчымі супрацоўнікамі стаўся ейным заснавальнікам. Школа Тэраўскага пераконана, станоўка й энэргічна ўжыцяўляла ў сваёй практычнай дзейнасьці ідэі нацыянальнае творчасьці. Гэтая дзейнасьць разьвілася ўжо пасьля першай сусьветнай вайны й таму будзе разгледжаная ў другой частцы гісторыі беларускай музыкі.

Гэты час дае таксама вялікае разьвіцьцё, пашырэньне й папулярнасьць беларускага народнага **музычнага інструмэнтарыя.** Расейскія й польскія вучоныя-этнографы (Н. Прывалаў, А. Фаміцын, А. Савінскі), якія займаліся інструмэнтальна-музычнымі дасьледваньнямі, знаходзяць цікавыя факты й у беларускім народным музычным жыцьці, прыкладам хоць-бы тое, як „ліцьвякі мядзьведзяў вучоных водзяць і на **трубах** пры гэтым граюць". Гэтым трубам даюць і назоў „трубаў літоўскіх".

Асаблівую-ж увагу вучоных надзяць беларускія дудкі й дуды. Пра адначаснае ансамблевае выкананьне на трубах і дудках згадывае яшчэ япіскап Сымон Полацкі ў сваёй камэдыі „Навухадоносар", дзе людзі „пачнуць трубіцы й піскаці". У працы Фаміцына прыводзіцца цікавая гутарка паміж маладою й дударом:



**Маладая:** Дударыку-гаспадарочку, ды ўжо-ж мяне заручылі!
**Дудар:** Ня бойся нябога,
Ня будзе нічога.
Я за табою...
Дуй, дуй — з дудою.

Беларускія дудары маюць ня раз сярод народу славу й знахараў, вядуноў, яны маюць вялікае значэньне ў сялянскіх абрадах, заступаючы часта бацькоў, блізкіх сваякоў ды апякуноў.



**Калядкі ў Беларусі — абраз Бэра з 1885 г.**
**На малюнку бачым ігру на пасьвісьцёлцы, падвойнай жалейцы.**

Сярод дудак, як беларуская асаблівасьць аж да сяньняшніх часоў захаваліся **падвойныя дудкі** (жалейкі, падвойныя флейты) **„пасьвісьцёлкі",** найбольш улюбёныя спадарожнікі сэзонных абрадаў. Маляўніча паказаныя беларускія калядоўшчыкі з падвойнаю дудкаю на абразе мастака Бэра „Калядкі ў Беларусі" (1885) г.). Цікавая таксама для нас заўвага этнографаў аб тым, што беларускія дудкі пашыраюцца на ўсю Расею.

 

**4.**

Прафэсійная беларуская музыка пачатак свайго собскага нацыянальнага шляху абавязаная беларускай літаратуры. Літаратура была старэйшаю сястрою, за якой малодшая — музыка — ішла ў сваім разьвіцьці, брала ад яе ідэі, зьмест і тэкставы матар'ял. У гэтай ролі беларуская музыка была даволі даўгі час і пасьля першае сусьветнае вайны, і ў першыя часы падсавецкага ды падпольскага жыцьця.

Але фактар вялікага ўзьдзеяньня ,які ў сваёй прыродзе мае музычнае мастацтва, зрабіў у сваю чаргу вельмі істотны ўплыў і на ідэйнай правадырцы музыкі — на беларускай літаратуры — ды нават на ўвесь ейны гістарычны шлях. Па першае, трэба падчыркнуць, што як беларуская літаратура, гэтак і беларуская музыка, мелі адзіную крыніцу, якая была жыватворчаю для абодвух мастацтваў. Крыніцаю гэтаю быў **беларускі фальклёр.** Песьня, якая займае ў народнай творчасьці першае месца, была глебаю, на якой гэтае мастацтва расло й дасьпявала. А ўжо ў самой песьні закладзеныя найбольш выразныя элемэнты музыкі. Першыя спробы беларускае паэзіі былі якраз нічым іншым, як песьнямі, якія адразу пачалі й пяяцца (прыгадаем песьні П. Бахрыма, Я. Баршчэўскага, Я. Чачота й іншых).

І не дарма беларускія паэты называлі сябе „пясьнярамі" й „музыкамі". Роля прадстаўнікоў народнага музычнага мастацтва, якую яны адыгралі ў народзе, іхныя вялікія ўплывы на душу людзей, на сьведамасьць, — усё гэта адразу-ж адчулася ў беларускай літаратуры. Вобразы музыкаў, іхнае жыцьцё й дзейнасьць, іхныя інструмэнты, сталіся ад самага пачатку улюбёнымі тэмамі беларускіх паэтаў і празаікаў. Варта хоць-бы зірнуць на назовы літаратурных твораў, каб у гэтым пераканацца („Музыка", „Гусьляр", „Лірнік", „Дудар", „Пясьняр", „Скрыпка", „Дудка беларуская", „Смык беларускі", „Жалейка" і г. д.).

Гэтыя вобразы, узятыя з музычнага мастацтва, ідэйнаю творчаю сілаю літаратуры ператвараліся ў сымбалічныя постаці народных правадыроў, асілкаў, прарокаў, змагароў за народную справу, за нацыянальнае вызваленьне й далі найцмацнейшыя ды найвыдатнейшыя творы („Сымон музыка" Коласа, „Музыка" Багдановіча, „Прарок" і „Гусьляр" Купалы й іншыя).



Беларуская літаратура была заўсёды найлепшым пашыральнікам музычнага беларускага мастацтва, яна заўсёды (што вельмі важна для музыкі) падчырквала ў сваіх творах песенную, музычную натуру беларускага народу, што робіць яго несьмяротным („Апокрыф" Максіма Багдановіча).

Апрача тэматыкі ды вобразаў беларуская літаратура часта брала ад музыкі й ейныя чыста фармальныя элемэнты: мэтр, рытм, мэлёдыю, гармонію. Гэтак пабудова верша ў бальшыні ідзе ад песенных памераў-мэтраў, а напеўнасьць вершу, ягоная мілагучнасьць, ад мэлёдыі. Пазьнейшыя паэты выкарыстоўваюць і чыста музычную схэматычную фармальную пабудову, і тэрміны канцонаў, арыяў, нактурнаў, актаваў і г. д. Беларускі выдатны паэта М. Багдановіч робіць таленавітыя й удалыя спробы ўвесьці ў гучаньне вершу музычную гармонію й нават музычнае інструмэнтаваньне. Ён старанна працаваў над сугучнасьцяю словаў, над іхнай гукавой ахварбоўкай, над тэмбрамі (гарманічны плян), над падборам словаў паводле аднаназоўных літараў або паводле аднолькавых складоў, дасягаючы ўжо інструмэнтаваньня верша (аркестравы, інструмэнтальны плян). Гэтыя тэндэнцыі ад М. Багдановіча пераходзяць у спадчыну да іншых паэтаў і ў сучаснай беларускай паэзіі займаюць шырокае месца.

Гэтак утвараліся арганічныя й сталыя сувязі паміж беларускай літаратурай і беларускай музыкай, іхная ўзаемадзейнасьць. Прафэсійная беларуская музыка, якая ў гэтую пару была ў ролі таленавітага дапаможніка, набывала сілы й моцы ды чакала адно на свой час, каб заняць асобнае, незалежнае месца й побач зь літаратураю прыйсьці да выдатных своеасаблівых музычных формаў творчасьці. Гэта зь вялікім посьпехам удаецца зрабіць музыцы, але ўжо пазьней, што й будзе тэмаю далейшага разгляду гісторыі беларускае музыкі ў другой кнізе.



 

# *Заканчэньне*

На заканчэньне першае кнігі „Беларуская музыка”, у якой дадзены кароткі агляд гістарычнага шляху беларускага музычнага мастацтва ад ягонага нараджэньня да першае сусьветнае вайны, хацелася-б зьвярнуць увагу на тое, што нават з таго скупога матар'ялу, які даводзілася адшукваць на працягу колькі гадоў, можна бачыць ці мала фактаў буйнага разьвіцьця беларускага музычнага жыцьця, як у галіне прафэсійнай, так і асабліва ў галіне народнай музыкі, хоць усё гэта найчасьцей адбывалася ў самых цяжкіх і няспрыяльных умовах.

Але беларускі народ быў дастаткова здольны й моцны, каб іх перамагаць. Музычнасьць арганічна зьвязаная зь беларускім народам. У сваёй прадмове да этнаграфічнае працы пра беларускі фальклёр дасьледніца Радчанка выказвае сваё шчырае зьдзіўленьне, што яна ўсюды й праз увесь час чула сьпевы й музыку ў Беларусі, бачыла асаблівае замілаваньне да іх. Найбольш вобразна й таленавіта пра гэта гаворыць нам выдатны „Апокрыф” Максіма Багдановіча, словамі якога хочыцца й закончыць гэтую кнігу:

**„Жыва яшчэ душа ў народзе гэтым!”**

---

### Ад Аўтара

Праца над нарысам гісторыі беларускае музыкі была пачатая яшчэ ў Менску. Я ўзяўся напісаць першую частку, ад самых пачаткаў, да XX ст. Другую частку — ад першай сусьветнай вайны да нашых дзён — меўся прыгатаваць ведамы музыкавед **Алесь Карповіч.** Чарга цяпер за ім.

Пры нагодзе выхаду ў сьвет гэтай кніжкі выказваю маю шчырую падзяку сп. сп. **Юрку Віцьбічу, Аўгену Каханоўскаму** й **Вітаўту Тумашу** за зьвярненьне маёй увагі на некаторыя важныя, выкарыстаныя ў гэтай працы, матар'ялы з гісторыі беларускае музыкі.



### ЛІТАРАТУРА

1. Ф. Аляхновіч: Беларускі тэатр. Вільня 1924 г.
2. П. В. Безсонов: Белорусския песни. С.-Петербург 1871 г.
3. М. Гарэцкі: Гісторыя беларускае літаратуры. Менск 1924 г.
4. М. Глинка: Записки.
5. В. Городинский: Белорусская музика.
6. Записки Отделения Русской и Славянской Археологии Императорского Археологического Общества. 1908.
7. W. Jäger: Weissruthenien. Berlin 1919.
8. Е. Карский: Белоруссы.
9. Н. Попова: История белоруской музики.
10. Н. Привалов: Народные музыкальные инструменты.
11. З. Радченко: Гомелские песни.
12. С. Сахараў: Песьні Латгальскіх і Ілукстэнскіх беларусоў.
13. A. Sowinski: Les Musiciens Polonais et Slaves. Paris 1857.
14. А. Фамицин: Скоморохи на Руси.
15. A. Chybiński: Mieczysław Karłowicz. Kraków 1949.
16. Чтения Императорского Общества Истории и Древностей Московского Университета. 1847 г.
17. Н. Шпилевский: Мозирщина. 1859 г.

---

...Песьняю й вершам... з тысячай відаў, зь бліскучым, а часткава жартаўлівым характарам, апавяшчаўся ўвесь гэты бачны й нябачны лад беларускага жыцьця. Даволі сказаць, што Слова аб палку Ігаравым без беларускае песьні паменела-б на траціну, што многае для ўсяго славянскага песьнятворства пагінула-б няясным і няпоўным бязь ейнае спадчыны нават у цяперашніх астанках...

ПЕТРА БЯЗСОНАЎ
„Белорусские песни”, 1871 г.

# *Кароль Альбрэхт і Скарына*

## Дакумэнты зь Дзяржаўнага Архіву ў Каралеўцы

А. Мілавідаў у 1914 г. раздабыў ад некага ў Вільні няведамыя раней водпісы лацінскіх лістоў прускага караля Альбрэхта аб доктару Францішку Скарыне. Арыгінальныя копіі гэтых лістоў знайходзіліся тады ў Дзяржаўным Архіве ў Каралеўцы. Свае водпісы Мілавідаў выслаў у гэтым-жа годзе ў Расейскую Акадэмію Навук у Пецярбурзе, якая апублікавала іх аднак толькі чатыры гады пазьней у сваіх „Известия Отделения Русскаго Языка и Словесности Российской Академии Наук 1917 г., т. XXII, кн. 2-я. Петроград 1918 г. Там яны памешчаныя, разам зь інфармацыяй Мілавідава, пад загалоўкам: А. Миловидов — Новые документы относящиеся к биографии Франциска Скорины (бач. 221-226).

Як падае Мілавідаў, у Дзяржаўным Архіве ў Каралеўцы лісты аб Скарыне знайходзіліся ў фоліянце з такім надпісам: **Staats Archiv Königsberg. Altpreuss. Foliant 48 S. 528 ff. Pro D'. Francisco Scorina de Polotzko, Medicinae Doctori.**

Пры ведамых вялікіх зьнішчэньнях Каралеўца падчас мінулае вайны, цяпер цяжка сказаць, ці гэты фоліянт з Скарынавымі дакумэнтамі наагул яшчэ існуе. Зусім магчыма Мілавідава публікацыя будзе сяньня адзіным існуючым тэкстам, а напэўна — адзіным нам даступным.

На думку Мілавідава, дакумэнты гэтыя раней нідзе ня былі друкаваныя, а паколькі нам ведама, ніхто ў цэласьці не перадрукоўваў іх і пазьней, хоць на іх адразу й была зьвернутая ўвага, і яны няраз цытаваліся (напр. Карскі ў сваіх „Белорусы" т. III, кн. 2; таксама юбілейнае выданьне „Чатырохсотлецьце беларускага друку" ў Менску).

Ніхто дагэтуль ня друкаваў і іх поўнага перакладу з лацінскае мовы на якую небудзь мову сучасную. Цікава тут адцеміць, што як відаць з зацемкі Мілавідава аб лістох, памешчанай разам з тэкстам, сам Мілавідаў ня вельмі добра ар'ентаваўся ў іх зьмесьце.

Паколькі жыцьцяпісныя весткі аб Скарыне нязвычайна сьціплыя й таму кажная біяграфічная драбніца для нас вельмі важная, а з другой стараны паколькі добрае знаёмства з лацінскаю моваю сяньня ня так ужо й шырокая нават і сярод навукоўцаў, дык Рэдакцыя ЗАПІСАЎ зьвярнулася да а. др. Пётры Татарыновіча з просьбаю зрабіць пераклад цікавых нам лістоў з лацінскае на беларускую мову.

Друкаваныя тут дакумэнты, гэта лісты прускага караля Альбрэхта (1490 — 1568) у справах Скарыны да віленскага ваяводы Станіслава Гаштальда (першы й чацьверты ліст), да віленскага сэнату (трэці) й дарожны ліст на вольны праезд Скарыны з Каралеўца ў Вільню (другі). Першыя тры лісты пададзеныя ў цэласьці, апошняга, чацьвертага, захаваўся толькі канцавы адрывак.

Усе яны пісаныя ў вадным часе, у травені месяцы 1530 г. Першыя два 16 травеня, трэці — 18, а чацьверты — 26 травеня.



Як бачым з датаў, лісты гэтыя паходзяць з асабліва крытычнага з матар'яльнага гледзішча году Скарынавага жыцьця. Ягоная друкарня ці ня згарэла ў гэтым годзе падчас вялікага пажару Вільні, што зьнішчыў бальшыню места. Страта друкарні магчыма й была адной з прычынаў ягонага выезду ў Каралевец. Адначасна сваякі Скарынавай жонкі Маргарэты дакучалі яму судамі й намагаліся адабраць ад ягонай жонкі дом і маемасьць, якія яна мела па сваім першым мужу, віленскім райцы Юрым Адзьверніку. Галоўным Скарынавым супраціўнікам у судовай справе быў віленскі мешчанін Марцін Субачовіч.

Хоць год раней, у 1529 г., сам вялікі князь Жыгімонт вырашыў судовую справу на ягоную карысьць і загадаў ягоным супраціўнікам пакінуць назаўсёды ўсе прэтэнсыі — „казалі ясьмо ў том вечнае маўчаньне меці"*) — аднак, як відаць з друкаваных тут лістоў, справа гэтая ня толькі ня кончылася „вечным маўчаньнем", але ў 1530 г. ўзгарэлася ізноў нанава й прыняла зусім няспрыяльны Скарыне абарот. Кароль Альбрэхт у сваіх лістох гавора нават аб праўдападобным забраньні Скарынавай маемасьці й домуназольлівымі жончынымі сваякамі.

Як відаць з друкаваных гэтта лістоў, у травені 1530 г. Скарына быў ад кароткага часу ў Каралеўцы ды знайходзіўся ўжо фармальна на службе ў караля Альбрэхта. Зь лістоў нажаль ня відаць, абавязкі якога дакладней характару прызначаў кароль Скарыне ў Каралеўцы: ці лекара, ці друкара, ці мо' ўжо тады думаў пра закладзіны ўнівэрсытэту ў Каралеўцы й адпаведным на ім становішчы для Скарыны. Унівэрсытэт, як ведама, быў канкрэтна закладзены пазьней, у 1544 г.

Цяжка таксама сказаць, ці Скарына ехаў зь Вільні да караля з намерам сапраўды астацца ў яго на службе, ці толькі зрабіў гэта на тое, каб здабыць каралеўскае падтрыманьне й „рэкамэндацыі", гэтак патрэбныя яму ў цяжкой, заблытанай судовай справе.

Зусім магчыма, што Скарына меў шчыры намер перанясьціся на даўжэй у Каралевец, але толькі ўмовы працы яму не спадабаліся ды туга за домам і сям'ёй былі мацнейшыя за намеры, і таму ён сьпешна павярнуў назад у Вільню. Што неадпаведныя ўмовы маглі тутка мець сваё значэньне, за гэтым гавора той факт, што Каралевец разам з Скарыною кінуў і другі лекар, кракаўскі жыд, прозьвішча якога ў лістох не называецца.

У сваіх лістох кароль гавора пра Скарыну перадусім як пра вельмі вучонага, адукаванага чалавека й лекара, і нічога не ўспамінае пра ягонае багатае друкарскае дасьветчаньне. Гэта паказвала-б быццам на тое, што ня друкарскія заданьні ляжалі перад Скарыною ў Каралеўцы. Але з другой стараны напамін на тое, што кароль меў бальшыя друкарскія пляны й уцёкі жыда-друкара прынясьлі яму вялікія страты, гавора нам ясна, што й гэтая дзялянка працы — для Скарыны, ці не — у Каралеўцы існавала.

*) Акт гэтай справы захаваўся ў Літоўскай Мэтрыцы й ён перадрукаваны ў манаграфіі аб Скарыне П. В. Владимирова: Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык. 1888 г. Бачыны 321-322.

Як можна зразумець з апошняга ліста, Скарына пакінуў Каралевец назаўсёды й патайным забраньнем ад караля жыца-лекара папаліў за сабой усе масты павароту. У залежнасьці ад гэтага факту й тон чацьвертага каралеўскага ліста мяняецца кардынальна. Альбрэхт крыўдуе на яго вельмі й ня можа даравацъ ня толькі „кражы" лекара, але, вычуваецца, і яшчэ мо' больш факту пагрэбаваньня Скарыною запрапанаванай яму службы на каралеўскім двары.

Наколькі першыя тры лісты перасыпаныя пахваламі пра вялікую, усёстароньнюю эдукацыю й эрудыцыю Скарыны, „выдатнага, слаўнага доктара мастацтваў і мэдыцыны", дык у апошнім, чацьвертым, кажыцца ўжо — „нейкі Францішак Скарына" — праява зьмененага настаўленьня караля да Скарыны.

Яскравы эпізод Скарынавай паявы на каралеўскім двары ў Каралеўцы, уражаньне, якое ён зрабіў там сваёй усёбаковай эдукацыяй ды ведай, раптоўны пазьней зрыў ды паварот да сваёй Вільні й сваіх клопатаў — гэта вельмі цікавыя нам бачыны з сьціплай біяграфіі гэтага найвыдатнейшага беларускага прадстаўніка пары Рэнэсансу й таму вартыя таго, каб зь імі пазнаёміць шырэйшы круг чытачоў. Дзеля гэтай мэты дакумэнты зь Дзяржаўнага Архіву ў Каралеўцы гэтка й друкуюцца.

Друкуючы гэтта лісты караля Альбрэхта аб Скарыне неабходна адначасна выказаць шчырую падзяку а. др. Татарыновічу за зробленьı ласкава іх пераклад з лацінскае мовы.

**С. Брага**

## Лісты караля Альбрэхта

### 1. Да ваяводы Гаштальда, 16 травеня 1530 г.

Вітаньні й усякія дабражаданьні з словамі найшчырэйшае прыязьні.

Высокі й усячэсны, з усіх прыяцеляў найдаражэйшы!

Ня вельмі даўно пад нашую ўладу прыбыў выдатны й усёдазнаны муж Францішак Скарына з Полацку, Доктар прыгожага мастацтва й мэдыцыны, ды даравіты прафэсар, падуладны Вашай Высокай Дастойнасьці й найслаўнейшае Вільні грамадзянін. Зьвярнуўшы ўвагу на ягоныя выдатныя мастацкія, дасьледна-падарожніцкія ды разьведчыя ў многіх рэчах здольнасьці мы прыпісалі яго да ліку нашых вернападданых мужоў ды дабраякасных месцаў. Паколькі мы зразумелі, прыгналі яго адтуль сюды ягоныя пякучыя справы што да маемасьці, пакіненай у Вільні разам з жонкаю й дзяцьмі. Калі гэта ягонай слушнай справе паможа, дык гэтым лістом просім Вашую Мағніфіцэнцыю жаданы ім рэкамандацыйны дакумэнт, а таксама лісты пасярэдніцтва Вашай Высокасьці да Віленскага Сэнату, якіх перадусім дамагаецца, гэтаму Сэнату прадставіць, ды помач і раду ў заблытанай няслушнай справе даць. Пакорна просім, каб вышмененаваны Доктар Францішак Скарына, наш падуладны й слуга, ня быў пакінуты самому сабе, але згодна з нашым пажаданьнем і дзеля важнай патрэбы хай Вашая Мағніфіцэнцыя будзе ласкавы яму, як чалавеку рэкамандаванаму, парадзіць ды яго ўспамагчы, на што мы ў Вас, як вельмі





**ФРАНЦІШАК СКАРЫНА З ПОЛАЦКУ**

**доктар вызваленых навук і мэдыцыны (1485?-1551?)**

Гравюра з кнігі Сіраха зь Бібліі выданай Скарыною ў Празе (1517-19)

дарагога прыяцеля, і ўва ўсіх Вашых, рупнасьцяй і стараннасьцяй хіба заслужым. На пасьветчаньне чаго на адвароце пячаць адціскаем.

Дадзена ў Каралеўцы, 16 травеня 1530 году.

**2. Дарожны ліст з 16 травеня 1530 г.**

Альбэрт з Божай ласкі й...

Усім і кажнаму паасобку, усякага стану, палажэньня ці годнасьці, да каго толькі гэтая нашая грамата дайшла-б, — прывітаньне, дабражаданьне, міласпагад і усё, што ёсьць і павінна быць адпаведнае да стану, годнасьці й гожасьці ды выдатнасьці. Так-жа хочам усім і кажнаму паасобку каб было ведама:

— Гэтта апавяшчаем, што слаўнага, шырокай эрудыцыі мужа Францішка Скарыну з Полацку, Доктара мастацтва й мэдыцыны, мы прынялі й прыпісалі да нашых вернападданых і слугаў. Далей — рэкамандуем, ветліва жадаем і папрыяцельску просім усіх і кажнага, каб памаглі яму ў справах ягонай маемасьці й рэчаў, якія скульнебудзь яго турбуюць. Каб вышменаванага Доктара Францішка, вернага нам і слушным сваім справам, калі абставіны й нагода гэтага вымагаціме (бо рэчы людзкія больш чым нясталыя, няпэўныя, зьменныя, слабыя), з увагі на слушнасьць і справядлівасьць апекаю ахінулі, каб ня сталася дзе яму крыўда якая. Гэтаксама будзьце ласкавы ў гэнай ягонай падарожжы даваць яму дазвол і ахову пераходзіць і падарожыць свабодна, бязь ніякай перапоны, празь землі, валадарствы, акругі й собскасьці нашыя, і, як з увагі на выдатнага мужа незраўнаных здольнасьцяў і сьветлых мэдычных дараў, ды слаўнага досьледу, гэтак і з увагі на наш гонар і спагад, суправаджаць яго прыхільнасьцяй і пашанай. На гэта мы ў вас усіх і кажнага, паводле яго стану, палажэньня, годнасьці й чэсьці ды стараннасьці, рупнасьці й прыхільнасьці, хіба заслужымся. А дзеля большае моцы сьветчаньня й веры гэтта прыкладаем нашую пячаць.

Дадзена ў Каралеўцы, шаснаццатага месяца травеня, году ад адкупленьня сьвету 1530.

**3. Да Віленскага Сэнату 18 травеня 1530 г.**

Альбэрт з Божай ласкі й...

Паважаным апякуном і дастойным сэнатарам, праконсулам, радным, грамадзянам і жыхаром слаўнага места Вільні ў Ліцьве, прывітаньні, пажаданьні й міласпагаднасьць нашая.

Паважаныя ласкавыя мужы й дастойныя сэнатары, праконсулы, райцы, грамадзяне й жыхары места Вільні, якіх датычыць і дойдзе гэты мой ліст. Паведамляем Вам усім і кажнаму вышназванаму гэтым адкрытым нашым лістом:

Ня гэтак даўно прынялі мы прыбылога ў нашыя воласьці Прускага Княства слаўнага мужа Францішка Скарыну з Полацку, Доктара мэдыцыны, з Вашага вольнага места, на нашага падданага двараніна й вернага прыслужніка. А што справы ягоных рэчаў і маемасьці, жонка, дзеці, якія ў Вас пакінуў, адгэтуль яго клічуць, дык туды ад'яжджаючы вельмі прасіў нас, каб лістом нашым паручылі Вашай апецы, чаго мы яму, як



нашаму слузе падданаму, не маглі адмовіць. Вось-жа просім ветліва Вас усіх і кажнага, Высокапаважаныя Мужы, трактаваць яго як асабліва рэкамандаванага. І дзеля нашай асобы й значэньня, каб ягонаму слушнаму праву й справядлівай слушнай справе, як гэтага вымагае справядлівасьць і слушнасьць, нічога не ставала, ані была праз кагонебудзь зробленая шкода. А калі ў ягонай адсутнасьці якім небудзь безпраўем была-б адынятая ягоная маемасьць, хай будзе яму зьверненая. І яго самога, ягоную жонку, дзяцей, як жыцьцё, гэтак і іншае ягонае дабро сьцеражэне, правам усякую крыўду спаганяйце. Мы гэтта з нашага боку дастойнасьць, усячэснасьць і апякунства Вашае ўсіх і кажнага з Вас падобнаю спагадаю й прыхільнасьцяй не забудземся падтрымаць. На пацьвярджэньне чаго гэтым на адвароце сваю пячаць адціскаем.

Дадзена ў Каралеўцы, 18 травеня 1530 году ад уцелаўленьня Хрыстовага.

**4. Да ваяводы Гаштальда — 26 травеня 1530 г.**

---

Нядаўна, у час нашай бытнасьці ў Кракаве, зьвярнуўся да нас нейкі жыд, заяўляючы, што ён практыкуе мэдыцыну, ды дакучлівымі просьбамі прыставаў, каб дазволіць яму паехаць практыкаваць гэную карысную прафэсію ў нашым краі ды здавольваць патрэбы здароўя нашых, хваробаю прыгнечаных, падданых. Паколькі мы лічылі просьбы гэныя за небезкарысныя для нашых падданых, мы іх падпісалі ды далі дазвол, і ён прыехаў разам у наш горад Каралевец, уладзіўся, і шмат хворых ды іншых зьнядужэлых узяў там-жа пад свой лекарскі дагляд. У міжчасе прыбывае Доктар, нейкі Францішак Скарына, якога мы й прынялі ў нашую прыдворную сям'ю. Ён, калі ехаў адгэтуль з нашымі дакумэнтамі да Вашай Высокасьці за сваімі справамі, якія меў у Вільні, — дзе меўся затрымацца, — прынадным сваім нагаворам гэнага жыдка, здольнага чалавека, нашага Друкара, тайком забраў із сабою, пакідаючы тымчасам тутака абняхаеных недалечаных хворых, не бяз шкоды й упадку іхнага здароўя. Наражаючы ў канцы на немалыя кошты, спрычыненыя намерамі друку, нягодным гэным паступкам дрэнна й крыўдна абыйшоўся з намі й нашымі людзьмі. Дзеля гэтага прашу ветліва Дастойнай Вашай Высокасьці, хай гэткага Доктара Францішка Скарыну павучыць аб неадпаведнасьці такога тайнага выводжаньня нашых людзей ды асудзіць, і хай скажа, што нам гэта ня вельмі падабаецца й пажадана, і што мы на гэткі незаслужаны паступак ад яго не спадзяваліся. І хай чымхутчэй вышназванага жыда й нашага Друкара адашле ад сябе сюды, да сваіх пакінутых недалечаных, і нам зьверне. Гэтага, думаем, мы годныя за нашую спагаднасьць да Вашай Высокай Дастойнасьці, якую найшчырэй з жонкаю й мілымі дзяцьмі жадаем паздаровіць.

Дадзена ў Каралеўцы, 26 травеня.

З лацінскае мовы пераклаў
**Кс. др. П. Татарыновіч**

---

# ЗАЦЕМКІ

## ЗАБЫТАЯ КНІГА

Кажуць, што кнігі, як і людзі, маюць свой лёс. Але ў некаторых выпадках дзіўным выгінам лёсу ёсьць само „нараджэньне” кнігі, выбар тэмы, асоба аўтара...

Якраз гэтае мы маем на ўвазе, калі бачым кнігу фінскага вучонага ў нямецкай мове, прысьвечаную тэме з гісторыі Беларусі. А калі гаварыць пра лёс самой кнігі, дык гэта будзе лёс незаслужанага яе забыцьця.

На кнізе загаловак: **U. L. Lehtonen. Die polnischen Provinzen Russlands unter Katharina II in den Jahren 1772-1782. Versuch einer Darstellung der anfänglichen Beziehungen der russischen Regierung zu ihren polnischen Untertanen. Aus dem finnischen Original übersetzt von Gustav Schmidt. Berlin. 1907. S. 634.** (У перакладзе зь нямецкае мовы: У. Л. Летонэн. Польскія правінцыі Расеі пад уладай Кацярыны II. 1772-1782 г. г. Спроба характарыстыкі пачаткавых дачыненьняў расейскага ўраду да ягоных польскіх падданых. Пераклаў зь фінскага арыгіналу Ґустаў Шмідт. Бэрлін. 1907. 634 бач.).

Кніга Летонэна гаворыць пра вельмі цікавы час у жыцьці Беларусі — пра першыя дзесяць гадоў ейнага перабываньня ў складзе Расейскае імпэрыі. Гэта быў час, поўны нутранога трагізму й вялікае напружанасьці, выкліканы пераходам беларускага народу з адных у інцыя, цалкам адменныя ад папярэдніх, культурныя й грамадзкія дачыненьні. Гаворыць кніга Летонэна, — ня гледзячы на ўспамін пра „польскія правінцыі” ды „польскіх падданых” у назове, — якраз пра Беларусь і беларускі народ.

Хто-ж такі быў У. Л. Летонэн? Ад кіраўніка бібліятэкі Інстытуту Сацыяльных Навук Фінскага Унівэрсытэту ў Гэльсынках сп. Гэнрыка Шаўмана мы ветліва атрымалі даведку, за якую яму шчыра ўдзячныя. Даведку падаем у перакладзе з ангельскае мовы: „У. Л. Летонэн, які нарадзіўся ў 1870 і памёр у 1927 г., быў прафэсарам унівэрсытэту ў Гэльсынках у 1910-1927 г. г. Быў ён спэцыялістым расейскае гісторыі 18-га й 19-га стагодзьдзяў. У 1904 г. надрукаваў сваю доктарскую дысэртацыю „Упадак Польшчы й ягоныя прычыны”, а тры гады пазьней кнігу, пра якую Вы пішаце. Для гэтых публікацыяў ён прарабіў архіўныя дасьледныя розшукі ў Пецярбурзе, Бэрліне, Штокгольме, Капэнгаґене й Вене. У фінскай мове ён апублікаваў у 1908 г. працу пра дыпляматычную палітыку Аляксандры I ад Тыльзіцкай угоды да міру паміж Фінляндыяй і Расеяй у 1809 г. у Гаміне. Ён сабраў вялікі матар'ял для працы пра палітыку Аляксандры I ў дачыненьні да Польшчы, але ніколі не апублікаваў яго. Гэты матар'ял цяпер знаходзіцца ў Дзяржаўным Архіве ў Гэльсынках. Летонэн быў салідным вучоным. Даўгі час (1910-1927) прафэсар Летонэн быў галоўным рэдактарам вядучага фінскага гістарычнага журналу **„Historiallinen Aikakauskirja”**.

Кніга У. Л. Летонэна складаецца з двух, няроўных сваім памерам, частак. Першая (б. б. 3-172) гаворыць пра „Галоўныя прычыны ўпадку польскае дзяржавы”, другая (173-634) — прысьвечаная асноўнай тэме ўсяго твору.

Першая частка — больш агульнага, чым дасьледнага характару й напісаная на падставе навуковае літаратуры прадмету тэмы. Яна дае кароткі агляд гісторыі Вялікага Княства Літоўскага й польскае гісторыі таго часу, калі яна была злучаная з падзеямі ў Вялікім Княстве. Аўтар падчырквае сілу „рускага” элемэнту ў Вялікім Княстве. (б. 18), які, на ягоны пагляд, у васнове **(in der Hauptsache)** быў элемэнтам беларускім (б. 20). Княства мела застацца чыста „рускай” краінай, каб ня вунія яго з Польшчай.

Куды больш самастойны ў сваім аглядзе гістарычнага палажэньня Летонэн у другой частцы свайго твору. Якраз дзеля яе ён выкарыстаў шматлікія матар'ялы зь пецярбурскіх архіваў Міністэрстваў Замежных і Нутраных Справаў, Дзяржаўнае Рады й інш., а таксама **Geheimes-Staats-Archiv zu Berlin.**

Аўтар кажа пра час пасьля „першага падзелу Польшчы”, калі Расея далучыла да сябе часткі Полацкага, Віцебскага й Менскага ваяводзтваў і ўсё Амсьціслаўскае ваяводзтва. Указам з 10-га травеня 1772 г. былі арганізаваныя 2 губэрніі, кожная з 4-ох правінцыяў. Першая — з цэнтрам у Апочцы (пазьней — паветавае места Пскоўскай губэрніі) з правінцыяў Пскоўскай, Вяліка-Лукскай, Польска-Ліфляндзкай і Полацкай; другая, з цэнтрам у Магілеве, у складзе правінцыяў Магілеўскай, Аршанскай, Рагачэўскай ды Віцебскай. Разам абедзьве губэрніі складалі беларускае генэрал-губэрнатарства.

Пасьля арганізацыі новага расейскага кіраўніцтва, у верасьні 1772 г. пачалася прысяга жыхарства ў цэрквах і сынагогах. Ад прысягі адмовіліся 9 магнатаў і дзяржаўных дзеячоў Вялікага Княства Літоўскага, пазьней да іх (як сьцьвердзіў аўтар з архіўных крыніцаў) далучыліся яшчэ колькі дзесяткаў шляхты. Адмова ад прысягі вяла за сабою канфіскацыю маёнткаў і высылку іхных гаспадароў у Польшчу. Расейская адміністрацыя не пашыралася на судовую сыстэму. Судзьдзі былі выбіраныя, прычым у земскіх судох справаводзтва вялося ў польскай мове, у гарадзкіх — расейскай. Тымчасова месты захавалі сваё старое (маґдэбурскае) права з тэй адменаю, што заведзеныя былі асобныя губэрнскія магістраты, як апэляцыйныя інстанцыі над мястовымі магістратамі.

Новае палажэньне несла шмат зьменаў. Устаноўлівалася н о в а я „моцная ўлада”, ня ведамая дагэтуль прывыкламу да „шляхоцкіх вольнасьцяў” жыхарству. Яна ня ведала мясцовае мовы, звычаяў, была чужой настроям жыхарства. Сярод нова-прызначаных расейскіх урадаўцаў было шмат благога элемэнту.

Аўтар разглядае далей гаспадарскае жыцьцё новых падданых расейскае імпэрыі й рэлігійныя ўмовы. Ён канчае сваю кнігу зазначэньнем, што беларуская шляхта хутка знайшла спосабы паразуменьня з но-




© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

вай расейскай уладай. „Das übrige Volk blieb kalt" (Рэшта народу заставалася „халодным").

З водгукаў на кнігу праф. Летонэна нам ведамая рэцэнзія д-ра Маця Лёрэта ў польскім гістарычным часапісе „Kwartalnik Historyczny (Rocznik XXI) 1907 (б. б. 703-707), у якой рэцэнзэнт наракае на несправядлівасьць ацэны гістарычнае ролі Польшчы й на няпоўнае выкарыстаньне польскае навуковае літаратуры.

Гаворачы пра кнігу У. Л. Летонэна 45 год пасьля яе выхаду, мы мусім зазначыць несправядлівую няўвагу да яе й забыцьцё. А тымчасам — гэта цікавы й каштоўны твор. Мы можам закінуць яму непаўніню дасьледваньня, але ягоны апошні рэфрэн пра тое, што нешляхоцкі народ застаўся „халодным", якраз меўся быць выходным да раскрыцьця найважнейшых праблемаў. Чаму народ заставаўся „халодным" і што гэта быў за „холад"? Ці глядзеў беларускі нешляхоцкі й неспалянізаваны народ на Вялікае Княства як на сваю, ці ўжо як на чужую дзяржаўную арганізацыю? Чаго чакаў беларускі народ ад расейскае ўлады й чаго не дачакаўся? і г. д. Гэта асноўныя й найбольш важныя праблемы. Не кранаючы іх зусім і гаворачы ў асноўным пра зьмест і парадак адміністрацыйных рэформаў, кніга фінскага вучонага робіць толькі першы крок дзеля раскрыцьця ўсяе праблемы ды спыняецца толькі на паверхні гістарычнага палажэньня.

Ня будзем ганіць яе за гэта. „Першыя крокі" таксама патрэбныя й бязь іх немагчымыя далейшыя шляхі. Будзем-жа ўдзячныя фінскаму вучонаму за тое, што ён зацікавіўся часткай гісторыі беларускага народу й прысьвяціў колькі гадоў свайго жыцьця ягонаму вывучэньню. Манаграфія праф. Летонэна мае ўсе падставы, каб увайсьці ў фонд найважнейшае літаратуры пра гісторыю Беларусі канца XVIII-га стагодзьдзя.

**Л. А-ч.**

## НАРОДАГУБСТВА

Новае слова **ґеносыд** ці **ґеносыдызм,** гэта моўны гібрыд, створаны з грэцкага **ґенос** — род, племя, і лацінскага **caedo, cecidi, caesum** — біць, забіваць. Першы ўвёў падчас мінулай вайны гэтае слова ў міжнароднае права ды азначыў ягонае паймо праф. Р. Лемкін. Адмысловаю канвэнцыяй Задзіночаных Народаў 1948 году пад гэтым словам прынята разумець цяжкі праступак вынішчаньня нацыянальных, этнічных, расавых ці рэлігійных групаў.

Паколькі абедзьве часткі гэтага слова цалком чужыя беларускай мове, дык ня дзіва, што паўстала імкненьне перадаць яго нейкім сваім, беларускім. З усіх дагэтуль ужываных у нашым друку словаў на перадачу пайма ґеносыду хіба найбольш удалым будзе нядаўна заведзенае **народагубства,** і гэта дзеля некалькі прычынаў:

1. **Народагубства** створанае цалком згодна з правіламі беларускае мовы аб будове складаных словаў ды мае аналёгічные сабе словы ў мове народнай, як **самагубства, душагубства, дзіцягубства.**

2. Ад слова **народагубства** лёгка творацца й патрэбныя паходныя, як прымета **народагубны,** ці прадметнікі **народагуб, народагубка, народагубца, народагубец, народагубнік, народагубніца.**

3. Слова **народагубства** мае яшчэ адну добрую свомасьць, што сваёю другою часткаю з каранём ад слова **губіць,** яно вельмі дакладна перадае паймо ґеносыду, бо пры ґеносыдзе ходзіць ня толькі аб безпасярэдняе фізычнае **забойства,** але таксама аб вынішчаньне, **выгубліваньне** народаў шмат якімі іншымі спосабамі, як голадам, галітою, катаржнаю працаю, стэрылізацыяй, забіраньнем ды пераўзгадоўваньнем дзяцей, і г. д. З гэтага гледзішча нашае **народагубства** выгадна вырозьніваецца й у прыраўнаньні да некаторых іншамоўных перакладаў ґеносыду, як напр. украінскага **народовбивство,** ці польскага ludobójstwo.

Дзеля ўсіх гэтых меркаваньняў хіба й варта затрымацца на гэтай не благой, згоднай з духам беларускае мовы, перадачы ґеносыду: **народагубства.**

**С. Б.**

### Яшчэ пра ЖАМОЙЦЬ

У папярэднім нумары ЗАПІСАЎ, у зацемцы пра **Жамойць,** сказ пра тое, што слова гэтае ў польскай мове было „патрактаванае як паўнагалосьсе" („патрактаванае як" тут ужытае ў значэньні „як быццам-бы", „аналёгічна да") было некаторымі хвальшыва ўспрынятае за тое, што гэта й мае быць прыклад паўнагалосься, ды адразу-ж і выкарыстанае да зробленьня другога хвальшывага вываду аб тым, што польскае **Żmudź** беларуская форма.

Гэткі пагляд наскрозь памылковы. Што рэдукцыя **а** ў першым складзе слова праведзеная палякамі (па аналёгіі да рэдукцыі паўнагалосься ці нават і зусім бязь яе), гэта факт гістарычна бязспрэчны.

Найлепшы довад гэтага, гэта тое, што рэдукаваная форма ў польскай мове паяўляецца тады, калі ў беларускай скрозь ужываецца форма нерэдукаваная — **Жамойць.** З гэтага найлепш відаць, які народ быў аўтарам рэдукцыі ды творцам формы **Żmudź.** Дадаткова пацьвярджае гэта й факт гэтак тыповага для польскай мовы пераходу **о** ў **у** у другім складзе.

Працэс пераходу нашай формы **Жамойць** у польскую **Żmudź** зафіксаваны й у памятках польскага пісьменства й таму безспрэчны.

Гэтае пытаньне фаховымі сіламі высьвенена ўжо не ад сяньня й зьмяніць пагляд на гэта можна толькі прывёўшы новыя й важныя ды дагэтуль няведамыя довады, але не непаважнымі, навукова неабаснаванымі дапушчэньнямі.

Непатрэбнае ўводжаньне яўна чужых польскіх (і ўсякіх іншых) формаў у сучасную беларускую літаратурную мову шкоднае, бо яно надае мове характар макаранічнай штучнасьці.

**С. Б.**

# КНІГІ Й ЧАСАПІСЫ

**Пракоп Каваль: БЕЛАРУСЬ у датах, ліках і фактах. Выданьне другое, папраўленае й дапоўненае. Выдавецтва „Моладзь". Парыж 1953 г. Бач. 108 + карта Беларусі.**

Другое выданьне ведамага ўжо даведніка аб Беларусі выйшла ў значна павялічаным, амаль падвойным, памеры. Гэты скромны альманах аб Беларусі памяшчае ледзь ня 60 бачынаў абшырнай беларускай храналёгіі з нашай гісторыі, гісторыі літаратуры, царквы, мастацтва. Другая палавіна кніжкі падае статыстычныя ведамасьці з дэмографіі, гаспадаркі, асьветы. Пашыраны значна сьпіс нашых культурных стратаў ад бальшавікоў (266 прозьвішчаў). На пачатку кнігі дадзеная бібліяграфія жаролаў, у канцы —іменны паказьнік успомненых асобаў. На канцы кнігі — далучаная карта Беларусі.

З кнігі відаць, што аўтар не змарнаваў трох гадоў ад першага выданьня. У новым выданьні значна збольшала колькасьць выкарыстаных жаролаў, шмат новых вестак, уведзеныя цэлыя новыя галіны. Укладзена перадусім шмат працы ў гістарычную храналёгію (даведзеную аж да нашых дзён) і дэмаграфію Беларусі.

Мае кніга й свае памылкі ды недахопы, як кажны твор сьмяротнага чалавека. Некаторыя галіны апрацаваныя даволі добра, іншыя значна слабей. Шырака патрактаваная гісторыя царквы ў Беларусі; калі ходзіць аб каталіцкую, дык ня шмат тут знойдзецца ўжо й дадаць. Але ў справе напр. каналаў у Беларусі нямала памылак і недаглядаў.

„Каралеўскі канал", як паказывае сам назоў, ня мог быць будаваны ў 1849 г., калі над Беларусяй панаваў ужо не кароль, а цар. Пінскі канал у сапраўднасьці быў пабудаваны на пачатку 1770 гадоў за караля Станіслава Аўгуста й быў спачатку названы Каналам Рэчыпаспалітай, а пазьней параіменаваны на „Каралеўскі". Канал-жа Агінскага быў будаваны ў 1760 гадох, плаваньне пачалося ў 1768 г. На месцы будзе тут успомніць і галоўнага творцу гэтага каналу, які быў такжа першым мэльяратарам Палесься, Міхася Мацея Бутрымовіча, падстарасту пінскага. Пад ягоным кіраўніцтвам было выканана рукамі прыгоньнікаў князя Агінскага 343 км. работаў па ўпарадкаваньні рэкаў і адвадненьні Піншчыны. Сам-жа канал мае толькі 52,8 км. даўжыні, а ня 165 км., як падаецца ў кнізе.

Слаба апрацаваныя ў кнізе й гаспадарчыя дадзеныя. Няма нічога пра ўраджайнасьць, пра лік жывёлы. Няма новых дадзеных аб колькасьці калгасаў, МТС і падобных (друкаваныя ў ЗЬВЯЗЬДЗЕ, часткава ў БАЦЬКАЎШЧЫНЕ).

Ня вельмі шчасьлівы падзел гістарычнай храналёгіі з злучэньнем мастацтва, музыкі,тэатру з будаўніцтвам. Што мае супольнага з мастацтвам пабудова чыгункі? Або каапэратыўная цэнтраля ў Баранавічах „Праца й Дабрабыт" з музыкай і кампазытарамі? Ня шмат музыкі ў крамах, ані мастацтва на чыгунцы. Ня варта таксама залучаць да прыродных багацьцяў воск ды мёд або збожжа ці жывёлу. Зашмат укладаецца ў іх людзкой працы, каб іх можна было называць „прыроднымі".

Ёсьць нярэдкія памылкі й у датах храналёгіі. Асабліва непаручыла ў кнізе этнографу Фэдароўскаму: памёр ён не ў 1933, а ў 1923 г., кнігі ягоных запісаў называліся не „Беларускі нораў", а „Беларускі народ" („люд"), і вышла іх ня 3, а 4 тамы (з усіх 10-ці прыгатаваных да друку). Першы том вышаў ня ў 1898, а ў 1897 г.

Цікавая й карысная навінка другога выданьня гэта карта Беларусі (1:3.000.000) у канцы кнігі. Але й у ёй ёсьць недагляды, як напр. палучэньне рэчак праз дзесяткі кілямэтраў вададзелу (Супрасьль-Сьвіслач у Беласточчыне), як перамяшчэньні селішчаў на іншыя берагі рэчак ці на іншыя бакі чыгунак. Багушэвічы перасуненыя на месца Бабінавіч з Аршанска-Віцебскай чыгункі аж 25 км. на ўсход ад сапраўднага палажэньня.

Аўтар пакідае бальшавіцкія назовы беларускіх селішчаў, але суседняй Кеніґсбэршчыны назовы пададзеныя дабальшавіцкія. Таму **Прапой** названы **Слаўгорад,** тады як **Тыльжа** астаецца **Тыльзіт.** Блытаніна выходзіць і зь перакладаньнем назоваў з прыметнікам **красны.** У аўтара ўсё выходзіць „чырвана" апрача Маладэчанскага ды Смаленскага Краснага. І ў канцы няведама як называецца мясцовасьць у сапраўднасьці, а дзе яе так назвала толькі сучасная адміністрацыя.

Ня ўсё ўпарадку й з „этнаграфічнымі" межамі. Калі ад былой польска-лятувіскай мяжы зробленыя папраўкі на карысьць Летувы каля Сьвянцянаў і Аран, дык затое няма папраўкі на нашую карысьць каля Еўя, дзе жывуць бясспорна беларусы. Таксама аўтар карты вельмі шчодрым аказаўся для ўкраінцаў, пакідаючы для іх усю паўночную Чарнігаўшчыну, хоць запраўды нашая мяжа падыходзіць там аж пад сам Чарнігаў. І выходзіць парадаксальна: нават і ўкраінскі мовавед К. Кісялеўскі падае як беларускія значныя абшары на поўнач ад Чарнігава, якія на мянаванай карце ад нас адрэзаныя для Украіны (глядзі карту украінскіх дыялектаў памешчаную на 15 бач. кнігі выдадзенай у 1952 г. у Ню Ёрку Украінскім Навуковым Таварыствам ім. Т. Шэўчэнкі: Proceedings, Vol. I. Philological Section). Зь межамі на сваіх картах трэба абыходзіцца асабліва акуратна й асьцярожна, бо яны пры кажнай пазьней нагодзе будуць выкарыстаныя як довады на нашую некарысьць.

Большых і драбнейшых недаглядаў знойдзецца й яшчэ ня мала, як у карце, так і самой кнізе. Але ўсе яны блекнуць перад тымі вялікімі карысьцямі, якія дае кніга й перад тым багатым матар'ялам сабраным маруднаю працаю аўтара ў зусім няспрыяльных для такой працы абставінах. Кніга стае сяньня адзінным на эміграцыі даведнікам-альманахам з галіны беларусаведы, без якога ня зможа абыйсьціся ніводзен беларускі грамадзкі працаўнік. Ды й чужынцу зацікаўленаму беларускімі справамі яна можа ў шмат чым быць вялікаю помаччу й першаю ар'ентацыйнаю ніткаю да адумысловых жаролаў.

Таму за кнігу належыцца толькі ўдзячнасьць як для працавітага аўтара, так і ахвярных выдаўцоў, і

 

трэба пажадаць, каб за некалькі гадоў змагло паявіцца чарговае, ізноў адноўленае ды ізноў папоўненае выданьне. **А. Г.**

**Dr. Steponas Kolupaila. NEMUNAS. Chicago 1950. Бач. 237.**

Нёман — адна з трох галоўных рэкаў Беларусі. Роўна паловаю свае даўжыні ён працякае праз прасторы беларускія, а другою — лятувіскія. Рака гэтая цесна злучыла геаграфічна, гістарычна й эканамічна землі двух народаў ды напэўна была не апошняю прычынаю паўстаньня ў свой час магутнай супольнай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага — у якой праз доўгія стагодзьдзі згодна ды вольна жылі й беларусы, і лятувісы.

Вось дзеля гэтага беларускаму чытачу, ня менш як лятувіскаму, цікавы гэты першы, агульнаапісальны том манаграфіі пра Нёман лятувіскага з чыста беларускім прозьвішчам гідралёга — Калупайлы. Другая, срога гідралягічная частка, мае паявіцца пазьней.

Кніга напісаная на ўзор Тышкевічавай „Wilja i jej brzegi" (1871), хоць далёка ня гэтак багата выдадзеная ды куды сьціплейшая памерамі. Калупайла дае ў ёй апісаньне ракі, ейных берагоў, прыбярэжных сялібаў, вёсак, мястэчкаў, местаў.

Аўтар намагаўся пабываць усюды на Нёмане, аднак безпасярэдня вывучыць раку ад самых ейных вытокаў яму непашчасьціла. У Менску, праз Беларускую Акадэмію Навук, ён стараўся атрымаць дазвол наведаць Нёманавыя вытокі ў Ігуменскім (Чэрвенскім) павеце. Беларускія акадэмікі прыймалі яго гасьцінна, але выстарацца ў бальшавіцкіх уладаў дазвол на выезд няздолелі.

Вось чаму дасьледваць Нёман безпасярэдня аўтар мог толькі ад Стоўпцаў. За прыкладам Тышкевіча й Калупайла спусьціўся па рацэ на лодцы, пачынаючы ад Любчы. Ягоным павадыром, які ведаў Нёман, як сваю кішаню, бо перагнаў па ім сотні плытоў, быў стары рачны воўк, рэтман плытнікаў — Іван Трубка зь Дзялятычаў.

Калупайла незапісваў, як Тышкевіч, беларускай народнай творчасьці ад паберажан-панямонцаў, але занатаваў крыху ад Трубкі цікавай для нас беларускай плытніцкай тэрміналёгіі ды беларускія назовы парогаў на Нёмане.

Даведваемся, што вялікія вёслы на плыце, гэта, паводле Трубкі, **апочыны;** плытнік пры пярэдняй апочыне — **галаўнік,** пры задняй — **заднік;** войстрая жардзіна для стрымваньня плытоў — **шарыга;** жардзіна для прымацаваньня плытоў ля берагу — **барбара;** шост з папярэчкай для затрымваньня плытоў —**гартоль;** рачны парог — **вус;** вытырклы ў раку бераг — **ıак;** частка роўнай, без заваротаў ракі — **плёс;** заварот — **норт;** глыбокае, спакойнае месца — **атвай.**

Гаспадарамі Нёману на ўсей яго-най плыні аддаўна былі беларускія плытнікі. Вось яны й панадавалі назовы рачным вусом-парогам ня толькі на сваёй, але й на лятувіскай частцы ракі. Некаторыя з гэтых назоваў падае Калупайла: **Калатоўка, Кашалёўка, Навуха, Ножны, Швец, Кравец, Лазоўка, Сьвіня, Парасяты, Кнур, Баран, Гога, Шалутка, Вараняты, Бічаняты, Бічы.**

Пра некаторыя парогі плытнікі склалі й свае адмысловыя прыказкі. Вось прыклады: Прайшоў Гогу — дзякуй Богу; Гога — простая дарога, але не для каждога; Прайшоў Бічаняты й Бічы — грошы лічы.

Ня дзіва, што Калупайла зацікаўлены ў знаходзе балцкіх сьлядоў у прыбярэжных геарафічных назовах. Ды дзеля навуковай дакладнасьці трэба адцеміць, што назоў **Сялец** паходзіць напэўна ад беларускага **сяліцца** (як і слова **сяло**), а не ад лятувіскага **селіс** (плыт). Таксама назовы **Панямоньне** ды **Занямоньне** чыста беларускія, а не лятувіскія. **Ё** з слова **Нёман** тут перайшло ў **я** паводле правілаў беларускага аканьня, падобна як **вясковы,** хоць **вёска, кляновы,** хоць **клён.** Аўтар памылкова думае, што яны „ясна зробленыя зь лятувіскага **Нямунас".**

Цікавыя лічбовыя дадзеныя. Нёман з усімі сваімі прытокамі (каля 100) зьбірае ваду з паверхні 98,102 кв. км. Даўжыня ракі — 937.4 км. Гідрографічная даўжыня (найбольшая даўжыня ў вадазборы), да вытокаў Вусы — 1016 км. Шырыня вышэй Горадні — 40-200 м; паміж Горадняй і Коўняй — 90-20 м; ніжэй Коўні — 150-400 м. Агульны спад — 179 м, сярэдні — 20 цм/км, мясцамі, на парогах — 70 цм/км.

На ўсёй паверхні Нёманавага вадазбору маем за год у сярэднім 600 мм ападу, што дае 58.8 куб. км вады на год. З гэтага праз Нёман сьцякае 21.6 куб. км., што роўна пласту 220 мм. З гэтага відаць, што з вадазбору за год выпароўвае пласт вады таўшчыні 380 мм.

Для плаву Нёман прыдатны ад Стоўпцаў, на даўжыні 854 км. Пад лёдам ён бывае прыблізна 3 месяцы на год. Замярзае ў сярэднім каля 20 сьнежня, ломіць лёд каля 20 сакавіка.

Бойкі сплаў усякага дабра па Нёмане ведамы ад XIV ст. У канцы XVII ст. па Нёмане праплывала каля тысячы віцінаў і стругаў за год. За 1900 г. сплыло па Нёмане 3793 параплавы й 15,320 плытоў, што, пералічыўшы на вадаплаўны час — 210 дзён на год — дае 75 плытоў дзенна, прыблізна адзін плыт што кажныя 10 часінаў.

Да паловы XIX ст. на Нёмане можна было бачыць гэткія рачныя вадаплавы: **віціны, стругі, байдакі, лайбы, каробкі** (каробкі — порамы зь бярвеньняў, наладаваныя дабром ды прыкрытыя страхою зь яловых лапак). Найбольшымі былі стругі: даўжыня — да 60 м, шырыня да 8 м, танаж — 100-160 тонаў, абсада — 15-20 чалавек, Танаж віцінаў даходзіў і да 140-240 тонаў.

Назад супроць вады ды праз парогі віціну цягнула 20-30 віціньнікаў. Была гэта вельмі цяжкая праца. Шмат віціньнікаў ад зьнясіленьня падарозе памірала. У 1860 г. падарожнік Меляшэўскі бачыў цэлыя рады драўляных шэрых крыжоў над магіламі віціньнікаў на левым беразе Нёману, па якім заўсёды цягнулі віціны. Ад 1854 г. на Нёмане зьявіліся параплавы й віціны, стругі ды лайбы шчэзьлі, а зь імі й віціньнікі.

Ужо першы том працы Калупайлы вельмі цікавы, а ейная навуковая вартасьць яшчэ значна пабольшае з выхадам другой, статыстычнай часткі. У канцы кніжкі пададзеныя табліцы з важнейшымі лічбамі пра 32 большых Нёманавых прытокаў ды пра 41 возера зь Нёманавага вадазбору. Ёсьць і карта Нёману ды ягоных прытокаў.

Нёман — рака двух народаў. Дзеля гэтага й падзяка за кніжку пра Нёман працавітаму аўтару належыцца ня толькі ад свайго лятувіскага народу, але й ад нас. **С. Б.**

 

 

**Alexandre Gretchaninoff: My Life.** New York 1952. Бач. 204.

Кнігу Ґрэчанінава зь цікавасьцяй прачытае ня толькі музыка. Напісаная простай, папулярнай мовай, без залішняй спэцыфійнасьці ў тэрміналёгіі, яна цікавая для кажнага культурнага чалавека.

Аўтар кнігі — прадстаўнік старэйшага пакаленьня расейскіх кампазытараў, адзін з апошніх, яшчэ жывых, вучняў Рымскага-Корсакава, шырака ведамы сваімі духоўнымі й сьвецкімі творамі („Літургія" з цудоўным сольным „Верую", „Экуменическая месса", опэра „Добрыня Никитич", шмат твораў для сымфанічнай аркестры, камернага ансамблю, салёвых інструмэнтаў і голасу; сярод апошніх ведамая сваёю папулярнасьцяй „Калыханка"). У сваёй кнізе Ґрэчанінаў падае багаты фактычны й гістарычны матар'ял, ахапляючы блізу 75 гадоў разьвіцьця расейскай музычнай культуры.

Для нас кніга Ґрэчанінава цікавая тым, што ён шмат свае творчае ўвагі прысьвячае беларускаму музычнаму фальклёру, які заўсёды надзіў яго на працягу ўсёй ягонай творчай дзейнасьці. Першае знаёмства кампазытара зь беларускай песьняй прыпадае на 1903 год, калі ў Маскве была заснаваная музычная сэкцыя Этнаграфічнага Таварыства пад кіраўніцтвам ведамага беларускага этнографа Міколы Янчука, які быў ня толькі выдатным знаўцам фальклёру, але й вельмі здольным кампазытарам. Яму, прыкладам, належыць мэлёдыя колішняга беларускага гімну „Не пагаснуць зоркі ў небе". Ґрэчанінаў працаваў у сэкцыі заступнікам кіраўніка. Своеасаблівасьць ладавай структуры й высокія мастацкія якасьці беларускай песьні моцна захапілі кампазытара. „Працуючы ў музычна-этнаграфічнай камісіі, — піша ён у сваёй кнізе — я меў магчымасьць пазнаць песьні ўсіх нацыянальнасьцяў, а зь іх асабліва палюбіў беларускія" (бач. 104). Як Знаўца беларускага фальклёру Ґрэчанінаў браў удзел у скліканай у 1923 г. ў Маскве Камісар'ятам Асьветы БССР „Беларускай песеннай камісіі". Камісія мела за мэту тэарэтычную й практычную працу ў галіне гарманізацыі беларускай народнай песьні.

Любасьць Ґрэчанінава да беларускага музычнага фальклёру ня была адно „плятанічным каханьнем". Беларуская мэлёдыка зрабіла інтанацыйныя ўплывы на творчасьць кампазытара. Ґрэчанінаў высака-мастацку апрацаваў шмат беларускіх народных мэлёдыяў, — асабліва для ведамага хору Рыгора Шырмы, — пісаў музыку для беларускага тэатру, скампанаваў колькі твораў буйной формы на беларускую музычную тэматыку, прыкладам, „Беларускую Рапсодыю" для сымфанічнае аркестры, солё для скрыпкі з фартэп'янам на мэлёдыю беларускай калядкі пад назоваю „Дар Белай Русі" ды інш. Нажаль, „беларускаму" разьдзелу сваёй творчасьці кампазытар прыдзяляе ў кнізе малое месца, а шмат аб чым і зусім не гаворыць, бо, як відаць, імкнецца ахапіць на 204-ох бачынах усе этапы свайго вельмі даўгога й плённага творчага жыцьця.

Значную частку сваіх твораў, пры гэтым бадай найбуйнейшых і найлепшых, Ґрэчанінаў напісаў на эміграцыі. Адарванасьць ад радзімы ня толькі ня зьнішчыла ягонага творчага імпульсу, але, наадварот, яшчэ больш пабуджала яго. Якраз на выганьні ён найбольш яскрава адчувае сваю нацыянальную прыроду ды выяўляе яе ў сваіх творах, не асымілюючыся з чужым асяродзьдзем. На гэтую рысу творчай індывідуальнасьці Ґрэчанінава варта зьвярнуць увагу ўсіх нашых творчых працаўнікоў, раскіданых у сьвеце й адарваных ад Бацькаўшчыны.

Зьмешчаны ў канцы кнігі каталёг музычных твораў Ґрэчанінава (разам колькі сотняў музычных твораў!) пералічае й гэткія гарманізацыі беларускіх народных песьняў:

2 беларускія элегіі — „Доля" й „Бяда" (Opus 83,1917 г.)

4 беларускія народныя песьні — „Вясна", „Купалінка", „Калыханка" й „Зазюленька" (Opus 84,1918 г.).

8 беларускіх народных песьняў — „Ой, рана, рана", „Ой, пайду я лугам", „Ой, ты грушка мая", „Ой, ня вылятай", „Ляціць сарока", „Шчука-Рыба ў моры", „Там каля млына", „На дварэ дождж" (Opus 144, 1935 г.).

У каталёгу, нажаль, не зазначана, якія з арыгінальных твораў кампазытара напісаныя на аснове беларускіх народных мэлёдыяў.

А. Карповіч.

## БЕЛАРУСКІ ПЭРЫЯДЫЧНЫ ДРУК НА ЭМІГРАЦЫІ Ў 1952 г.

За 1952 год зарэгістравана на эміграцыі 36 выданьняў рознае пэрыядычнасьці, якія падзяляюцца па краінах расьцярушаньня беларускае эміграцыі гэтак:

Англія — 3
Аўстралія — 3
Бэльгія — 1
ЗШАмэрыкі — 11
Італія — 1
Канада — 7
Нямеччына — 8
Францыя — 2

З гэтага ліку па тэматыцы яны падзяляюцца:

рэлігійна-грамадзкія — 4
літаратурна-навуковыя — 4
маладняцкія — 4
гумарыстычныя — 2
агульнаграмадзкія — 22

Апрача газэтаў „Бацькаўшчына" (Нямеччына) і „Беларус" (ЗША) ды часапісаў „Божым Шляхам" (Францыя) і „Žnič" (Італія), усе іншыя выданьні выходзілі вельмі нерэгулярна й пераважна ратататарным друкам. Бальшыня выданьняў ужо ўсталілася й выданьняў-зьнічак зьявілася за мінулы год, у параўнаньні да папярэдніх гадоў, мала.

За 1952 год ББС выдала 27 даведак розным навуковым, пераважна замежным, установам у пытаньнях беларусаведы. У сучасны момант інфармацыйна-даведчае бюро ББС знаходзіцца ў стадыі перадаваньня сваёй працы інфармацыйна-даведчаму аддзелу Усёбеларускага Архіву, які ў хуткім часе пачне абслужываць і шырэйшыя колы беларускага грамадзтва.

БЕЛАРУСКАЯ БІБЛІЯГРАФІЧНАЯ СЛУЖБА

# Х Р О Н І К А

**Інкарпарацыя** Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва праведзеная ў стэйтавых уладаў стэйту Ню Ёрк з правам дзейнасьці Інстытуту на ўсім прасторы Злучаных Дзяржаваў Амэрыкі. Беларускі Інстытут зарэгістраваны як навуковая арганізацыя недахадовага характару. Факт інкарпарацыі дае значныя выгады ў дзейнасьці арганізацыі, а перадусім дае магчымасьць для Інстытуту выступаць у патрэбе поўнапраўнаю юрыдычнаю адзінкаю.

**Памятнік Міколу Равенскаму.** Каардынацыйны Камітэт Беларускіх Арганізацыяў у Бэльгіі падняў ініцыятыву будовы памятніка на магіле памерлага сёлета кампазытара Міколы Равенскага. Управа Інстытуту з сваёй стараны заклікае ўсіх, а ў першую чаргу сяброў Інстытуту, падтрымаць у меру магчымасьці гэты пачын перасланьнем грашовай ахвяры на адрыс:

Mr. V. Ščečka
19, Place Hoover
Louvain, Belgium

**„Беларуская музыка"** — кароткі нарыс гісторыі беларускага музычнага мастацтва, кніга пяра кампазытара Міколы Куліковіча, вышла з друку ў выданьні Беларускага Інстытуту (адбітка з ЗАПІСАЎ). Выпісываць можна на адрыс ЗАПІСАЎ. Цана зь перасылкаю — 1.00 даляр.

**Мікола Куліковіч** працуе цяпер над вялікім беларускім сьпеўнікам, які мае складацца з трох частак: 1. Апрацоўкі народных песьняў, гульняў, карагодаў і скокаў для ансамблевага й харавога выкананьня; 2. Зборнік патрыётычных песьняў; 3. Солёсьпевы й дуэты.

**Тэксты для кампазыцыі.** Беларускія кампазытары ў пошуках за вершаванымі тэкстамі для музычнага афармленьня. Дзеля гэтага Управа БІНіМ зьвяртаецца да ўсіх нашых паэтаў прысылаць такія вершы, якія могуць надавацца да палажэньня іх на ноты для харавога або салёвага сьпеву. Могуць быць і большыя творы, якія надаюцца да музыкальнай інсцэнізацыі. Прысланыя тэксты будуць адразу накіраваныя да зацікаўленых кампазытараў.

**Зборнік песьняў Равенскага** пад тэхнічнай рэдакцыяй кампазытара Алеся Карповіча пляное выдаць на першую гадавіну сьмерці М. Равенскага выдавецтва НАПЕРАД у Бэльгіі. Зборнік будзе мець каля 140 бач. і будзе зьмяшчаць каля 70 песьняў, шмат якіх у двох варыянтах — для мяшанага й для мужчынскага хору.

**Успаміны пра Івана Луцкевіча** напісала спадарыня Юльяна Дубейкаўская. Успаміны даюць шмат цікавых і цэнных вестак пра беларускае нацыянальнае жыцьцё й працу (перадусім у Вільні) з пары першае сусьветнае вайны, а асабліва пра дзейнасьць Івана й Антона Луцкевічаў, Цёткі, інж. Дубейкаўскага. Да ўспамінаў далучаныя ня менш цэнныя й важныя фатаграфіі з гэнай пары, а між імі фатаграфіі Івана Луцкевіча й Вальтэра Егера, ведамага нямецкага выдаўца кнігі пра Беларусь Weissruthenien (Бэрлін 1919 г.).

**Этнографічныя й слоўнікавыя матар'ялы.** Для Інстытуту перададзена каля 200 прыпеўкаў і больш 50 народных песьняў з мэлёдыямі з Касаўшчыны запісу сп. Анатоля Валюшкі.

Апрача гэтага Інстытут атрымаў ад аднаго свайго сябры запісы больш 1000 характэрных словаў з Лагойшчыны (былы Барысаўскі павет).

**Зборнік артыкулаў** зь літаратуры, мастацтва, этнографіі й гісторыі за 25 гадоў сваёй літаратурна-навуковай працы гатуе У. Глыбінны. Зборнік мае абымаць каля 25 артыкулаў і некалькі даўжэйшых нарысаў, пераважна ўжо друкаваных па часапісах, або й асобнымі выданьчямі.

**Зборнік прозы** Вацлава Ластоўскага з нагоды 70-годзьдзя нараджэньня (20 кастрычніка 1883 г.) й Максіма Гарэцкага з нагоды 60-годзьдзя нараджэньня (6 лютага 1893 г.) камплетуе сябра Інстытуту Мікола Панькоў. Для заканчэньня працы над зборнікамі неабходныя яшчэ такія кнігі: Беларускі каляндар „Сваяк" з 1919 г., Вільня (дзе шмат прозаічных твораў Ластоўскага) і повесьці Максіма Гарэцкага „Антон" і „Дзьве душы". Хто ведае, дзе гэтыя кніжкі можна знайсьці, просім напісаць аб гэтым для Рэдакцыі ЗАПІСАЎ.

**Рэгістрацыя беларускіх кніжак.** Беларускія навуковыя й грамадзкія працаўнікі маюць няраз вялікі клопат з росшукамі той ці іншай беларускай кніжкі, друкаванай яшчэ нават і ня так даўно. А шмат якіх і зусім немагчыма нідзе раздабыць.

Для навуковых і шырэйшых грамадзкіх мэтаў вельмі важна ведаць таму дзе, у каго й якія кніжкі, брашуры, часапісы беларускія й аб Беларусі ёсьць, ці як прыватная собскасьць, ці ў мясцовых бібліятэках.

Каб правесьці ўлік існуючых беларускіх кніжак Управа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва заклікае ўсіх, хто мае беларускія ці з галіны беларусаведы кніжкі, перасылаць для Інстытуту іхны сьпіс. У сьпісе трэба падаць аўтара, назоў кнігі, год і месца друку. Для часапісаў апрача назову трэба падаць месца ды год выхаду й пералік існуючых нумароў. Гэткія сьпісы просім перасылаць на адрыс Беларускага Інстытуту.

Праведзеная рэгістрацыя беларускіх кніжак ува ўсіх краінах сьвету моцна аблягчыць працу нашых навуковых і грамадзкіх працаўнікоў. Паўсталая з дасланых сьпісаў картатэка беларускага друку будзе стала папаўняцца й на яе аснове будзе магчыма даваць патрэбныя весткі зацікаўленым сваім і чужым навукоўцам.

**Рэфэрат у Беларускім Інстытуце** на тэму: **Whiteruthenia** ці **Byelorussia** прачытаў В. Тумаш 25 красавіка ў Ню Ёрку. Аснаўныя думкі рэфэрату былі такія:

Сяньня няма аднalітай чужамоўнай тэрміналёгіі для перадачы назоваў **Беларусь, беларускі, беларус.** З сустраканых цяпер аж 4-ох тэрмінаў у ангельскай мове **White Russia, Byelorussia, Whiteruthenia, Byeloruthenia,** першы паволі выціскаецца новым **Byelorussia,** які пашыраецца галоўна савецкаю прапагандаю. Тэрмін **Byelorussia,** ня мае ніякой за сабой традыцыі, мала ведамы й хіба ня зможа шырэй

прывіцца. Дзеля гэтага найжмацнейшыя спаборнікі на сяньня — Whiteruthenia й Byelorussia.

З гледзішча навуковай дакладнасьці толькі тэрмін Whiteruthenia перадае прэцызыйна паймо слова **Беларусь,** а Byelorussia дэфармуе яго праз падстаўленьне на месцы часткі **Русь** неадназначнага слова **Расея.** Byelorussia дакладна значыць не **Беларусь,** а **Беларасея,** а byelorussian гэта **беларос** ці **беларасеец.**

Паймо **Русь** сяньня найчасьцей ужываецца роўназначна з модэрным тэрмінам **усходнія славяне.** Паймо-ж **Расея** сустракаецца ў двох розных значэньнях: ці Расеі этнаграфічнай, **Вялікарасеі,** і ў гэтым пайме яна абыймае толькі частку **Русі,** ці ў значэньні **Расейскай імпэрыі,** і тады паймо **Расея** абыймае прастор шмат большы й за ўсю ўсходнюю славяншчыну, за **Русь.**

З гэтага бачым, што й у першым, і ў другім значэньні паймо слова **Расея** не пакрываецца з паймом слова **Русь.** Таму й падменіваць адно другім ня можна без дэфармацыі географічнай, гістарычнай ці нацыянальнай сутнасьці.

Вось дзеля гэтага тэрміналёгіі зь перадачаю **Русь** словам **Рутэнія,** як навукова дакладнай, і трымаліся пераважна нашыя навуковыя ўстановы: Інстытут Беларускай Культуры й Беларуская Акадэмія Навук у Менску пакуль гэта ня было забаронена Масквою дзеля сваіх вялікадзяржаўных мяркаваньняў, а таксама Беларускае Навуковае Таварыства ў Вільні.

Тэрмін Whiteruthenia тарнавалі пераважна й Урад ды Рада Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) у сваёй міжнародна-дыпляматычнай акцыі пасьля першай сусьветнай вайны. Тэрмін гэты ў шырокім карыстаньні й сярод сучаснай беларускай эміграцыі.

Сярод існуючых сяньня ў ЗДА беларускіх арганізацыяў каля 75% у сваім назове карыстае тэрмінам Whiteruthenia, каля 25% тэрмінам Byelorussia, і ніводная тэрмінамі White Russia ці Byeloruthenia.

З гэтага разгляду насоўваецца й лёгічны вывад, што трэба трымацца й пашыраць тэрмін Whiteruthenia, як адзіна навукова правільны, і трэба высьцерагацца ўжываньня тэрміну Byelorussia, як пашыранага галоўна Масквою з чыста палітычных, а не навуковых меркаваньняў.

Амаль даслоўны поўны тэкст гэтага рэфэрату надрукаваны ў № 21-22 газэты „Бацькаўшчына" з 31 траўня 1953 г.

**Міжнародная Вольная Акадэмія** Літаратуры й Навук у Парыжы 30-31 траўня 1953 г. адбыла сваю другую чарговую сэсію. Падчас гэтай сэсіі зь беларускіх прадстаўнікоў чытаў рэфэрат „Аб беларускай міталёгіі" а. Леў Гарошка.

**Лектарат Беларусаведы пры Унівэрсытэце ў Торонто ў 1952-53 г.** Другі курс Лектарату Беларусаведы складаўся з 20-ці двугадзінных лекцыяў. Курс абняў беларускую літаратуру й галоўныя асаблівасьці беларускае мовы з фанэтыкі, марфалёгіі й сынтаксу. Кажная лекцыя складалася з двух частак: літаратурнай і мовазнаўчай. Лектарат беларусаведы сёлета, як і ў мінулым годзе, вёў др. В. Жук-Грышкевіч.



## ПРЫСЛАНАЕ Й ПРЫСЫЛАНАЕ

**НАПЕРАД** — часапіс беларускае моладзі. № 24, 1953 г. Лювэн. Бэльгія.

**Пракоп Каваль:** Беларусь у датах, ліках і фактах. Выданьне другое. Выдавецтва „Моладзі". Парыж 1953 г.

**Якуб Колас:** Новая зямля (Паэма). Выдавецтва „Бацькаўшчына". Мюнхэн 1952.

**Янка Купала:** Раськіданае гняздо. Выдавецтва „Бацькаўшчына". Мюнхэн 1953 г.

**Янка Купала:** Тутэйшыя. Выдавецтва „Бацькаўшчына". Мюнхэн 1953 г.

**Молода Україна.** Ню Ёрк 1953 г.

**Новый журнал.** Кн. XXXI-II. Ню Ёрк 1952-53.

**Вестник** Института по изучению истории и культуры СССР. Кнігі 1-4. Мюнхэн 1951-1953.

Институт по Изучению Истории и Культуры СССР. Иследования и материалы:

**Вс. М. Гречко:** Коммунистическое воспитание в СССР. Мюнхэн 1951.

**П. Л. Кованьковский:** Финансы СССР во вторую мировую войну. Мюнхэн 1951.

**Материалы.** Выпуск III. А. Авторханов: Положение исторической науки в СССР. Мюнхэн 1951.

**Материалы:** Выпуск V. Секция экономики. Мюнхэн 1951.

**Г. Сааруни:** Борьба Армянской церкви против большевизма. Мюнхэн 1951.

**Г. Шульц:** Санитарная и противоэпидемическая работа в СССР. Мюнхэн 1951.

**Ф. Легостаев:** Физическое воспитание и спорт в СССР. Мюнхэн 1952.

**Н. Семенов:** Советский суд и карательная политика. Мюнхэн 1952.

**Leo Okinshevich:** The Law of the Grand Duchy of Lithuania. Background and Bibliography. Research Program on the U.S.S.R. New York City, 1953.

**Bielorrusia** y los Bielorrusos en la Republica Argentina. Editado por Asociacion Bielorrusa en la Argentina. Buenos Aires 1953.

**Nils Ake Nilsson:** Die Apollonius-Erzählung in den slavischen Literaturen. Uppsala 1949. University of Stockholm.

**Gunnar Jacobsson:** Le nom de temps lěto dans les langues slaves. Uppsala 1947. University of Stockholm.

**Clara Thörnquist:** Studien über die nordischen Lehnwörter im Russischen. Uppsala och Stockholm 1948. University of Stockholm.

**Lietuva.** Politikos žurnalas. 1952-53. New York.

**Bulletin.** Academie Internationale Libre des Sciences et des Lettres. Парыж 1955.

**Proceedings.** Vol. I. Historical-Philosophical Section. Shevchenko Scientific Society. New York — Paris 1951.

**Proceedings.** Vol. I. Philological Section. Shevchenko Scientific Society. New York —Paris 1952.
**The Ukrainian Quarterly.** Vol. VIII. Number 4. New York 1952.
**S. Kolupaila:** Nemunas. Chicago 1950.
**V. Biržiška:** Vyskupo Motiejaus. Valančiaus Biografijos Bruožai. Brooklyn 1951.
**Lietuvos Ukio Atstatymo Studiju Komisijos Darbai.** Sasiuvinis VII. Boston 1952.
**Oriente.** Organo trimestral del Centro de Estudios Orientales. Madrid 1952.
**La Civilta Cattolica.** №. 4. Vol. I. Roma 1953.
**Directory** of American Organizations of Exiles from the U.S.S.R. East European Fund. New York 1952.

---

## ЗЬМЕСТ



---


Часапіс рэдагуе РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ
Выдавец: БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА, Ню Ёрк, ЗША.
Выпіска на год $ 4.00. Цана адной кніжкі — $ 1.00.

Лісты, матар'ялы, грошы трэба слаць на адрыс:
Mrs. N. Kushel, Whiteruthenian Institute of Arts and Sciences,
385 Alabama Avenue, BROOKLYN 7, N. Y., U. S. A.

Published quarterly by the Whiteruthenian (Byelorussian) Institute of Arts and Sciences. New York, N. Y., U. S. A.
Subscription per year $ 4.00.